# АД РЭДАКТАРА

Гэты нумар паўстаў з дзвюх патрэбаў.

Першая — знайсці адказы на пытанне, што ўплывае на з'яўленне культуры беларускага горада і асаблівага этаса гараджаніна і грамадзяніна.

Другая — знайсці іншых — аўтараў, чытачоў, — хто шукае адказы на падобныя пытанні.

Калі нараджаецца гарадская культура ў Мінску і праз якія маркеры можна засведчыць яе неаспрэчную наяўнасць?

Чым ёсць гарадская ідэнтычнасць? Вызнаннем асаблівага гарадскога стылю жыцця, часткай якога з'яўляюцца багатыя магчымасці для баўлення вольнага часу і спажывання культурных дабротаў? Або гарадская ідэнтычнасць — гэта заўсёды выбар на карысць пэўных нормаў і каштоўнасцяў, якія мы разам пераасэнсоўваем, ствараем і перадаем?

Што неабходна, каб наша гарадская культура і наша ідэнтычнасць былі якаснымі і трывалымі?

Наколькі ўстойлівасць гарадской культуры залежыць ад наяўнасці публічнай прасторы — месца сустрэчаў, супрацоўніцтва і ўзаемадзеяння жыхароў? А дзе феномен публікі, які мае наўвазе асаблівы тып кантактаў паміж людзьмі, нараджаецца толькі дзякуючы пэўным чынам структураванай гарадской прасторы?

Якая роля ў з'яўленні гарадской культуры належыць мастацтву і творчым асяродкам? Як можна сёння пераасэнсаваць гарадскую культуру Мінска, адлюстраваную ў літаратурных творах і паэзіі, напрыклад, 1920-х гадоў?

Як уплывае на гарадскую культуру і ідэнтычнасць наяўнасць у нашых гарадах прасторы ведаў (бібліятэк, універсітэтаў), гістарычная тапаніміка, а таксама сімвалічнае пераасэнсаванне гарадской прасторы з боку дзяржавы?

Чаму так істотна дбаць пра гарадскую культуру: як пра каштоўнасці і нормы, якія пражываюцца і перадаюцца, і, адначасна, як пра гарадскі асяродак, прастору (культурны гарадскі ландшафт, гарадскі хранатоп), у якім гэтыя нормы выспяваюць?




Добрага чытання,

плённага пошуку адказаў

і пераадкрыцця нашай сталіцы!

/ **АЛЯ СІДАРОВІЧ** /

# ШТО ВАРТА ВЕДАЦЬ, КАБ БЫЦЬ ГАРАДСКІМ?



**/ АЎТАР: АЛЯКСЕЙ КРЫВАЛАП /**

выпускнік філасофска-эканамічнага факультэта БДУ (1999), кандыдат культуралогіі (Расійскі дзяржаўны гуманітарны ўніверсітэт, 2011). Суаўтар кнігі «Культурная идентичность в контексте Пограничья».

Горад, і не толькі сучасны, — гэта перш за ўсё публічная прастора, у якой разгортваецца наша жыццё. Самотнымі мы толькі нараджаемся і паміраем (дый тое незаўсёды), а ўсё астатняе адбываецца на вачах супольнасці. І ў яе патрапляюць не толькі сваякі і знаёмыя, як у вёсцы, а цалкам незнаёмыя асобы, з якімі мы мусім лічыцца.

Калі горад расце, «глытаючы» суседнія маленькія вёскі і мястэчкі, як у свой час рос Берлін і як цяпер расце Мінск, то кожны асобны раён мае непаўторны каларыт і прывабнасць. Зусім іншая справа, калі жыллё для работнікаў нейкага буйнога прадпрыемства будуецца вакол прамысловых будынкаў, а потым з цягам часу гэты гіпертрафіраваны рабочы пасёлак атрымоўвае статус горада, які мае «горадаўтвараючае прадпрыемства». Але ж тут яшчэ пытанне: ці з'яўляецца гэтае новаўтварэнне горадам?

Існуючы інстытут рэгістрацыі (былой прапіскі) вельмі фармальна падыходзіць да таго, хто з'яўляецца жыхаром горада, а хто не.

***Пячатка ў пашпарце аб рэгістрацыі — гэта толькі фармальны доказ таго, што жывеш у горадзе. Акрамя паперкі патрэбны яшчэ і іншыя сведчанні пра прыналежнасць да гарадской супольнасці. Такімі сведчаннямі можа быць стыль жыцця, разуменне гісторыі і адказнасць за будучыню.***

Усё тое, чаго няма ў турыстаў ці часовых наведвальнікаў. Гэта проста не іх клопаты.

Для жыхароў нават самых буйных гарадоў існуе панятак мой двор, мая школа, месца, дзе нарадзіўся, дзе ўпершыню закахаўся, пабіўся ды і шмат чаго іншага, што назаўсёды застаецца з намі. Але вельмі складана зразумець і ўявіць агульную ідэнтычнасць жыхароў усяго горада, якая б складалася не з такіх дробных, прыватных успамінаў, а са слоганаў накшталт: «Мінск — жыцця майго крыніца!» ШТУЧНА СТВОРАНЫ ДЗЕНЬ ГОРАДА НЕ МОЖА БЫЦЬ ПАДСТАВАЙ ДЛЯ АБ'ЯДНАННЯ. Дарэчы, у адрозненне ад традыцыйнай вясковай супольнасці, дзе людзі самі былі адказнымі за тое, якім чынам у іх будзе арганізавана святкаванне з той ці іншай нагоды, у горадзе для гэтага ёсць адмысловая прастора і падрыхтаваныя прафесійныя забаўляльнікі.

## ЦІ ДЗЕ ВУЧАЦЬ БЫЦЬ «ГАРАДСКІМІ»?

Напэўна, гэта пытанне да Піта Паўлава і аднаго з яго праектаў з адпаведнай назвай. Даўно вядомы жарт пра тое, што можна вывезці чалавека з вёскі, але ж немагчыма вывезці вёску з чалавека. І як у кожным жарце, у ім толькі частка смешная, а ўсё астатняе праўда. Існуючы факультатыўны курс «Мінсказнаўства» для мінскай пачатковай школы (1-4 класы) не ёсць панацэя. Ён безумоўна навучыць адрозніваць аўтобус ад трамвая ці тэатральную афішу ад анонсаў кінатэатра ды іншым нормам паводзін у публічнай прасторы.



***Толькі культура ў шырокім сэнсе дапамагае нам зразумець, чым горад X адрозніваецца ад горада Y: архітэктура, паводзіны людзей, транспарт, прастора для машын ці жыхароў.***

Для тых гараджанаў, у якіх дастатковы фінансавы ўзровень, але ёсць пэўныя праблемы з узроўнем адукацыі, сучаснае грамадства спажывання прапаноўвае вельмі простую і прывабную мадэль: акт спажывання ёсць дасягненне.

## ГОРАД ЯК ПРАСТОРА ВЕДЫ

Якое месца належыць універсітэту ў горадзе? Добрае пытанне. Ці можа быць універсітэт у вёсцы? Напэўна, не. Але ж, безумоўна, некаторыя кампусы знаходзяцца па-за межамі буйных гарадоў, аднак немагчыма назваць іх вясковымі. А ці можа быць універсітэт у аграгарадку? Таксама не, бо гэта не горад. Таму што МЕНАВІТА УНІВЕРСІТЭТ РОБІЦЬ ГОРАД ГОРАДАМ. Універсітэт — гэта прынцыповае адрозненне ад традыцыйных метадаў адукацыі і перадачы ведаў, калі ў сям'і кавалёў сын без варыянтаў станавіўся кавалём, а дзеці бортнікаў не маглі займацца нічым іншым, акрамя пчалярства. Універсітэт дазволіў выбіраць не вузкую спецыялізацыю, а імкнуцца да больш шырокай і незалежнай прафесіі. Універсітэт — гэта той асяродак культуры, які выцягвае на больш высокі ўзровень увесь горад.

## БІБЛІЯТЭКА

Напэўна, зараз, калі доступ да інтэрнэту стаў адным са складнікаў камфорту, складана ўявіць, наколькі істотнай была роля бібліятэк для фармавання горада. Безумоўна, прыватныя бібліятэкі, як і прыватныя калекцыі, існавалі і могуць існаваць у закрытым рэжыме рэзідэнцый і палацаў. Аднак для фармавання адукацыйнай прасторы гэта неабходная рэч. Бібліятэка сёння — больш не шафы з кнігамі, а перш за ўсё публічная прастора, дзе адбываюцца розныя імпрэзы і выставы, ёсць доступ да інтэрнэту. Такую grassroot актыўнасць як буккросінг ці свабодныя бібліятэкі можна ўспрымаць як новае жыццё бібліятэк ці проста бібліятэку 2.0.

## АДКАЗНАСЦЬ І ЎДЗЕЛ У КІРАВАННІ

Тут мы падыходзім да пытання актыўнага ўдзелу гараджан у жыцці горада. Становішча, калі кіраўнік горада адказны перад жыхарамі. На вялікі жаль, у Мінску няма мэра, а ёсць старшыня гарадскога выканаўчага камітэта. І тут пытанне не толькі ў пасадзе, якая пазначана на візітоўцы. Бо адна справа, калі дзейнасць кіраўніка гарадскіх улад ацэньвае насельніцтва, і зусім іншая, калі чыноўнік адказны перад асобай, якая прызначыла яго на гэту пасаду.

Такім чынам, веды, якія прапануюць гараджанам універсітэты, бібліятэкі, музеі, мусяць быць запатрабаваны ў тым ліку і для таго, каб больш эфектыўна і рацыянальна ацэньваць дзейнасць кіраўніцтва і імкнуцца прымаць непасрэдны ўдзел у кіраванні, дакладней, у самакіраванні і самаарганізацыі тых працэсаў, з якіх і складаецца гарадское жыццё. ●



↑ Галоўная чытальная зала
Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі. 1936 г.

# ІДЭЯ ГОРАДУ[1]

Штораз, кажучы пра жыццё ў горадзе або жыццё на вёсцы, мы, найхутчэй, уяўляем нейкі дакладны горад або вёску — месцы, якія добра ведаем, ці нават неіснуючыя вобразы, якія, аднак, можам падрабязна ўявіць. Гэты тэкст — спроба ўзняцца над канкрэтыкай і разгледзець горад як ідэю, як прынцып. Вызначыць, якое прызначэнне мае горад і на што абапіраецца ягонае існаванне.



**/ АЎТАР: БАРЫС ШЧУКА /**

**выпускнік Полацкай нацыянальнай гімназіі, БДУІР 2008 г. па спецыяльнасці «Электронна-аптычнае апаратабудаванне». Працуе інжынерам на ААТ «КБ Радар» (распрацоўка і вытворчасць вайсковай тэхнікі). Музыка, мае досвед рэалізацыі музычных праектаў у кірунках death і black metal, патрыятычнай песні, беларускай народнай песні. З 2009 г. удзельнік праектаў навуковага кірунку ў РМГА «Студэнцкае этнаграфічнае таварыства». Аўтар шэрагу артыкулаў і перакладаў на музычную, палітычную, культурную тэматыку.**

**РАІЦЬ ЧЫТАЦЬ:**

**Joseph A. Tainter.** The Collapse of Complex Societies

## АБСАЛЮТНАЯ ВЁСКА І АБСАЛЮТНЫ ГОРАД

Найперш вызначым падстававыя, найбольш выразныя рысы «гораду» і «вёскі» як супрацьлеглых з'яваў, спосабаў уладкавання грамадскага жыцця.

**АБСАЛЮТНАЯ ВЁСКА — ГЭТА**

1/ вялікая колькасць фізічнай прасторы для кожнага чалавека; магчымасць значна прасторава аддаліцца ад іншых людзей;

2/ непасрэдная блізкасць дзікай прыроды, магчымасць без абмежаванняў знаходзіцца ў ёй;

3/ невялікае і пастаяннае кола людзей, з якімі паўсядзённа сустракаецца чалавек; усе, каго бачыць чалавек на працягу жыцця — ягоныя сваякі і (або) пастаянныя суседзі, усе знаёмыя асабіста;

4/ адсутнасць спецыялізацыі працы, натуральная гаспадарка; кожны чалавек сам выконвае поўны цыкл работаў з забеспячэння сябе жытлом, ежай, адзеннем; умее рабіць вялізную колькасць справаў у гаспадарцы.

**АБСАЛЮТНЫ ГОРАД — ГЭТА**

1/ мінімальная асабістая прастора, патрэбная толькі для выканання задач і фізічнага існавання; немагчымасць аддаліцца ад іншых людзей;

2/ аддаленасць дзікай прыроды, немагчымасць дабрацца да яе;

3/ жыццё сярод вялізнай колькасці незнаёмых людзей; пераважная большасць людзей, якія трапляюць штодня ў поле зроку, не запамінаюцца, бо не сустракаюцца паўторна;

4/ найбольшая магчымая спецыялізацыя працы.



↑ Мінск. На будаўніцтве Універсітэцкага гарадка. 1929 г.

Зразумела, што гэта ідэальныя мадэлі. Любая грамада ў свеце жыве ў нейкім прамежкавым рэжыме паміж гэтымі дзвюма скрайнасцямі.

Адным з вынікаў адрозненняў паміж апісанымі скрайнасцямі з'яўляецца адпаведная розная ў прывязанасці да прасторы, розны ўзровень мабільнасці. Чалавек абсалютнай вёскі нікуды не пераязджае ўсё жыццё; ён пастаянна займаецца сваім жытлом і асяроддзем сам. Таму ягоная прастора «абжытая», ён прывязваецца да яе, як да роднай.

Чалавек жа абсалютнага гораду з лёгкасцю пераязджае з аднаго жытла ў іншае, выкарыстоўвае іх толькі як месцы перабывання, не прывязваецца ні да дому, ні да мясціны.

Але больш важны вынік — гэта розная у колькасці вольнага часу. Чалавек абсалютнай вёскі, з'яўляючыся аўтаномным, заняты забеспячэннем свайго выжывання і камфорту практычна ад світання да заходу сонца (калі, вядома, ён жадае жыць у парадку, чысціні і бяспецы). У яго ўвесь час тысяча гаспадарчых справаў. Абсалютны гараджанін жа, дзякуючы спецыялізацыі і рацыяналізацыі працы, можа дазволіць сабе дастатковую бяспеку і камфорт, працуючы толькі некалькі гадзін штодня. Астатні час у яго вызвалены ад неабходнасці забяспечваць найпрасцейшыя патрэбы.

[1] Форма «гораду» ў родным склоне абумоўленая разуменнем гораду як абстрактнага прынцыпу.

## ДОБРАЯ ВОЛЯ І ГОРАД ЯК ПАДСТАВЫ ЦЫВІЛІЗАЦЫІ

На чым трымаецца цывілізацыя? Што за сіла падтрымлівае той культурны, навуковы, тэхнічны ўзровень, якім характарызуюцца, да прыкладу, сённяшнія еўрапейцы (а сярод іх і беларусы)?

Мы маем складаную сістэму заканадаўства, сістэмы кіравання ўсімі сферамі грамадскага жыцця, шматлікія пасады, афіцыйныя абавязкі, інструкцыі, рэгламенты. Але ўсё гэта не будзе працаваць без чагосьці, што знаходзіцца на ўзровень вышэй за сістэму. Без некаторай волі, якая назірае сістэму звонку і адначасова звязвае яе знутры ў суладнае цэлае. То бок, нават калі кожны будзе законапаслухмяным і будзе «проста сумленна працаваць» — добра выконваць свае платныя абавязкі ў адпаведнасці з кантрактам і інструкцыяй, — гэтага ўсё яшчэ недастаткова.

Сістэма законаў, пасадаў, інструкцый паводле сваёй прыроды статычная, мёртвая. Адразу па сваім стварэнні любое правіла старэе. Каб не развальвацца, сістэма мусіць няспынна абнаўляцца, даглядацца нейкай жывой, нерэглементаванай клапатлівай сілай.

Гэтая жывая, неўзаконеная сіла — добрая воля людзей на ўсіх узроўнях грамадства. Іхняя грамадска-карысная ўпарадкавальная дзейнасць у вольны час, па-за і па-над заробкамі і выкананнем інструкцый (але **не замест** гэтага!). Імкненне грамадзянаў да нейкіх грамадска-значных цэляў [2], якія пераўзыходзяць узроўні «я», «мая сям'я», «мая гаспадарка».

Праяўляцца гэтая добрая воля можа розным чынам і ў рознай ступені. Напрыклад, калі шараговы працаўнік завода вынаходзіць і прапаноўвае спосабы паляпшэння вытворчага працэсу. Або калі чыноўнік звыш сваіх абавязкаў аналізуе айчынную і замежную практыку ў сваёй сферы, навучаецца сам і вучыць калегаў; або застаецца на працоўным месцы даўжэй за афіцыйны працоўны час і дарабляе справы.

Больш простыя выпадкі — любыя карысныя добраахвотныя ініцыятывы: ад экалагічных рухаў да грамадскіх кампаній па барацьбе з наркотыкамі. Яшчэ прасцейшыя — калі, напрыклад, чалавек робіць спробы спыніць злачынства, якое адбыва-

↑ Мінск. Панарама Універсітэцкага гарадка, 1933 г.



↑ Талака ў Любчы

[2] Тут і далей аўтар выкарыстоўвае слова "цэль" замест слова "мэта" дзеля падкрэслення яго сувязі з прыметнікам «цэлы». Цэлым, цэльным, унутрана лучным будзе той, хто ідзе да цэлі. У класічнай грэцкай мове «teleios» азначае «завершаны», «выкананы», «дасканалы» і паходзіць ад «telos» («вынік»; «прызначэнне», «цэль»). У гэтым тэксце цэль суб'екта або аб'екта разглядаецца як забяспека яго ***будучай*** цэласці.

ецца ў яго на вачах, або робіць заўвагі публічным хамам, або нават проста прыбірае смецце пасля папярэдніх «отдыхающих» на беразе возера. Усё ж, найбольшая карысць для цывілізацыі заключана не ў выпадковых, эпізадычных учынках, а ў мэтаскіраванай, актыўнай добраахвотнай дзейнасці, прычым у складаных сферах: навука, адукацыя, дзяржаўнае кіраванне, тэхніка і тэхналогія, літаратура і мастацтва.

Аднак далёка не кожны схільны мысліць высокімі грамадска-значнымі цэлямі, клапаціцца і праяўляць адказнасць за грамадства як цэлае і займацца адпаведнай дзейнасцю. Фактычна гэтага можна чакаць толькі ад невялікай колькасці людзей — 5-10% ад усіх. Іх можна называць пароznаму: адказныя грамадзяне, «ядро нацыі», прыроджаныя водцы і мысляры. Той парадак, які існуе ў цывілізацыі, па сутнасці, трымаецца на добраахвотных высілках 5-10% людзей.

***Гэта людзі, якія не могуць не працаваць бясплатна на карысць грамадства. Тыя, хто ў самых абыякавых выклікае рэакцыю ад здзіўлення і пытання «табе, што, больш за ўсіх трэба?» да непрыхаванай варожасці.***

У гэткім святле задача падтрымання высокага ўзроўню арганізацыі грамадства заключаецца ў тым, каб забяспечыць гэтым 5-10% людзей адчувальную колькасць вольнага, не занятага клопатам пра выжыванне часу, у які яны змогуць праяўляць сябе. Гэта азначае, што яны павінны жыць ва ўмовах значнай спецыялізацыі працы. А гэта — умовы гарадскія або набліжаныя да іх.

Можна паглядзець на гэтую задачу ўзбуйнена, нібы «ад'ехаўшы» аб'ектывам фотаздымача. Якая дзейнасць забяспечвае высокі ўзровень арганізацыі грамадства? Гэта ўжо згаданыя навука і адукацыя (самыя розныя кірункі), тэхнічныя і тэхналагічныя распрацоўкі, літаратура і мастацтва; а таксама прамысловая вытворчасць, вайсковая справа, грамадская бяспека. Што мы бачым?

❖ Большасць гэтай дзейнасці патрабуе засяроджання вялікай колькасці людзей на невялікай тэрыторыі.

❖ Большасць гэтай дзейнасці — найперш адукацыя (з гледзішча вучня і студэнта) і навука — не можа прыносіць хуткіх прыбыткаў, не можа забяспечваць існаванне. Адукацыя і навука — гэта, наадварот, выдаткі. І на ўзроўні асобнага чалавека, і на ўзроўні грамадства ў цэлым гэта **добраахвотнае і мэтанакіраванае** ўкладванне сродкаў, сілаў і часу ў будучыню, часам вельмі аддаленую.



↑ Мінск. 1968 г.
Зянон Пазняк

❖ Большасць гэтай дзейнасці патрабуе высокіх інтэлектуальных і (або) маральных якасцяў удзельнікаў.

Такім чынам, калі мы хочам мець развітае грамадства, нам **<u>неабходна</u>** забяспечыць пражыванне адказнай, разумнай і актыўнай часткі грамадзянаў (5-10%) у рэжыме гораду або набліжаным да яго. (Тэма астатніх 90-95% грамадзянаў будзе разгледжана ніжэй.)

## ЗАНЯПАД ГОРАДУ

На тле згаданай неабходнасці выглядае трывожным імкненне часткі актыўнай і здатнай усходнееўрапейскай гарадской моладзі да сельскага ладу жыцця. Незадаволенасць горадам, захапленне хутаровай рамантыкай, «вяртаннем да прыроды», даўншыфтынгам. У вачах інтэлігентных і неабыякавых тыя людзі, якія з'язджаюць жыць на вёскі, на хутары, часам выглядаюць ледзьве не героямі і ўзорамі для пераймання. Часткай гэтага імкнення з'яўляецца і масавая мода на вясковую этнічную культуру, у тым ліку матэрыяльную.

Пры гэтым людзі, захопленыя этнарамантыкай, нясхільныя азірацца і ацэньваць, што адбудзецца, калі іх узор пярэймуць іншыя разумныя і актыўныя. Асноўнае, пра што варта памятаць:

***увесь той час, які чалавек займаецца хэндмэйдам, вырошчваннем гародніны на ўласным участку, а таксама этнаанімацыяй, этнатурыстычным прадпрымальніцтвам і іншай нізкакваліфікаванай дзейнасцю, — увесь гэты час ён <u>не</u> прысвячае складаным праектам у навуцы, тэхналогіях, мастацтве і іншых важных сферах.***

Ахвяруючы свае сілы і час вясковай рамантыцы, інтэлігент працуе на паніжэнне ўзроўню арганізацыі грамадства, на адкат цывілізацыі. Бо акрамя яго, гэтага інтэлігента, складанай дзейнасцю займацца няма каму.

Мінск. 1968 г.
Зянон Пазняк



Перавернем пытанне: ці ўсім трэба жыць у рэжыме гораду? Тут карысна азірнуцца на беларускі прыклад. У позняй БССР і сённяшняй Рэспубліцы Беларусь урбанізацыя ў значнай ступені ішла — і працягвае ісці — па градыенце камфорту. Людзі пераязджаюць з вёскі ў горад і з рэгіянальных гарадоў у сталіцу, каб жыць у лепшых побытавых умовах, займацца больш прэстыжнай і фізічна лягчэйшай працай. Для такіх людзей — хоць іх віны тут няма — горад, гарадское ўладкаванне жыцця становяцца ў першую чаргу рэсурсам, выгодай, якую стварыў хтосьці іншы і якая спажываецца, а не інструментам дасягнення нейкіх надасабовых цэляў.

Грамадзяне, якія не ўваходзяць у згаданыя вышэй 5-10%, пераважна нясхільныя прысвячаць свой вольны час надасабовым цэлям. У рэжыме гораду, дзе вольнага часу шмат, яны прысвячаюць яго забавам, міжасабоваму стасаванню (якога ў горадзе на парадак больш, чым у вёсцы, і яно становіцца тут відам наркотыку і сродкам уцёкаў ад рэчаіснасці), а таксама спажыванню тавараў і паслугаў, маштабы якога часта выходзяць за ўсялякія памысныя межы. «Права на горад» у гэткім святле трапляе проста ў шэраг феноменаў грамадства спажывання.

Горад у такой сітуацыі пагаршае чалавека, марнуе яго, не дае яму расці.

Згаданае вышэй бясконцае паквольнае міжасабовае стасаванне якасна змяняе грамадства. Людзі ў ім прысвячаюць больш часу ацэнцы і павярхоўнаму вывучэнню іншых, чым узаемадзеянню з навакольным светам, прыродай, даследаванню іх. Сфера розуму і ведаў перастае расці і канцэнтруецца сама на сабе. Такое грамадства як цэльную істоту можна параўнаць з асобай, якая занурылася ў свае ўнутраныя перажыванні, самакапанне, самаўнушэнне і адгарадзілася ад навакольнага свету з яго жыццёвымі задачамі і рэальнымі з'явамі.

Зрух адбываецца і ў эканоміцы: расце яе сектар, скіраваны на задавальненне патрэбаў чалавека, які не карыстаецца сваім вольным часам плённа. Адны бясконца спажываюць тавары (часта бессэнсоўныя) і забавы, а іншыя бясконца іх ствараюць і імі гандлююць. Прэстыжнай дзейнасцю становяцца гэткая вытворчасць і гандаль замест, напрыклад, фундаментальнай навукі або вайсковай справы.

У сваю чаргу, адказныя грамадзяне, «ядро нацыі», пачынаюць бачыць сябе чужымі, лішнімі, а горад — пачварным, калі ў горадзе пачынае дамінаваць насельніцтва, урбанізаванае па градыенце камфорту. Спажыванне і забавы становяцца нармальным спосабам баўлення часу большасці навакольных, а грамадскі парадак і нават банальная чысціня пачынаюць трымацца не столькі на этычных прынцыпах гараджанаў, колькі на паліцэйскай і адміністрацыйнай сіле дзяржавы. Даволі прадказальна, што нейкая частка здатных і адказных людзей захоча ўцякаць з гораду.

Для буйных гарадоў Заходняй Еўропы і ЗША звыклай з'яўляецца субурбанізацыя, калі багацейшыя гараджане з'язджаюць з цэнтра горада і селяцца ў прыватным сектары на ўскраінах, часта даволі ізаляваных ад астатняга горада — не кажучы пра г. зв. gated communities. У гэтых раёнах само заможнае насельніцтва забяспечвае ўзровень спакою, бяспекі і чысціні, недасяжны для цэнтральных частак гарадоў. Гэтая тэндэнцыя паводле сваёй прыроды блізкая да згаданых вышэй імкненняў здатнай моладзі на вёску.

## ІДЭЯ ГОРАДУ. ГАРАДСКАЯ ІДЭНТЫЧНАСЦЬ. МАГЧЫМАСЦІ БУДУЧЫНІ

Такім чынам, ідэя гораду, яго цэль і змысел, — а таксама і адзіная *магчымасць* яго існавання, бяспекі, цэласці, — гэта гуртаванне людзей, схільных да мыслення ў маштабе цэлага грамадства і адпаведнай складанай дзейнасці, і *забеспячэнне гэтых людзей вольным часам* для добраахвотнай, нефармалізаванай дзейнасці, накіраванай у супольную будучыню.

***Горад патрэбен для таго, каб мы мелі навуку і навучанне, дзяржаўнае кіраванне, тэхнічныя распрацоўкі, войска, складаную літаратуру і мастацтва і г. д. Горад — гэта забяспека суверэнітэту. Дзяржаўнага, культурнага, тэхнічнага, інфармацыйнага.***

Менавіта згаданыя вышэй схільнасці да мыслення ў маштабе цэлага грамадства і адпаведнай складанай дзейнасці і ўдзел у падобнай дзейнасці ляжаць у аснове гарадской ідэнтычнасці.

Людзі такой ідэнтычнасці павінныя дамінаваць у горадзе.

Запаўненне гораду людзьмі, якія на практыцы не падзяляюць прызначэння, цэлі існавання гораду, і іх дамінаванне ў горадзе азначаюць фактычную страту горадам цэлі свайго існавання. Наступствам будзе фізічнае знікненне гораду або, прынамсі, значны адкат узроўню яго арганізацыі, і, адпаведна, аслабленне або знікненне нацыянальнага суверэнітэту. Таму трэба забяспечыць, каб горад прыцягваў у першую чаргу тых, каму гарадскі лад неабходны для магчымасці дзейнічаць.

## **ЯК НЕ ЗГУБІЦЬ ГОРАД?** НЕКАТОРЫЯ ПРЫНЦЫПОВЫЯ, АГУЛЬНЫЯ ПРАПАНОВЫ.

**1/ *Зняць з буйных гарадоў частку*** працоўнай і дэмаграфічнай нагрузкі, дэцэнтралізаваць іх функцыі. Для гэтага трэба забяспечыць грамадзянам магчымасць жыць ва ўмовах, якія будуць спалучаць карысныя ўласцівасці мадэляў абсалютнай вёскі і абсалютнага гораду: наяўнасць вялікай прасторы для кожнага, блізкасць дзікай прыроды, стабільнае кола стасункаў, але адначасова высокую спецыялізацыю працы, якая дазваляе мець вольны час. На сёння гэта дасягальнае ў тым ліку за кошт сучасных сродкаў сувязі. Шмат якая гарадская праца адбываецца цалкам за кампутарам, таму яе можна рабіць дыстанцыйна. На адлегласці пры патрэбе можна весці і абмеркаванне і каардынацыю працы.

**2/ *Прадухіляць урбанізацыю*** па градыенце камфорту. Напрыклад, адміністрацыйнымі сродкамі: права на сталае жыццё ў горадзе — толькі пасля пэўных выпрабаванняў. Або гаспадарчымі: павышаць эканамічную значнасць перыферыі, ствараць прывабныя ўмовы жыцця па-за горадам.

**3) *Не дапускаць дэградацыі*** той часткі насельніцтва гарадоў, якая не ўваходзіць у «ядро нацыі» (такія людзі з неабходнасцю будуць прысутнічаць нават у ідэальным горадзе). З дапамогай адукацыі, а таксама адміністрацыйных і тэхнічных захадаў прадухіляць нястрымнае спажыванне і ўзалежненне ад сродкаў камунікацыі. Прапаноўваць гараджанам здаровыя спосабы адпачынку.

**4) *Набіраць досвед стварэння гарадоў*** і ўвогуле любых новых паселішчаў. Гэта досвед мабілізацыі ўсіх найлепшых сілаў грамадства і досвед упарадкавання прасторы. У беларускім выпадку на пачатак XXI ст. мы маем малады народ, збольшага складзены з нашчадкаў славянамоўнага сялянства і дробнай шляхты Вялікага княства. Да перыяду БССР гэты народ не ўдзельнічаў у стварэнні якіхсьці значных гарадоў, а хутчэй толькі назіраў за знешняй горадастваральнай ініцыятывай на сваёй зямлі. Стварэнне гарадоў у БССР не было цалкам самастойным, але гэта ўжо досвед. Савецкае стварэнне гарадоў, засяроджаных на нейкай цэлі — напрыклад, вакол прадпрыемства або навуковай установы — гэта метад, які якраз адпавядае ідэі гораду. І ўсё ж, хто хоча сам вызначаць сваю будучыню, той павінен навучыцца самастойна нараджаць свой горад. ●



ГЕТЭРАТОПІІ ПОСТ-ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ:

# ХТО І ЯК СТВАРАЕ ІДЭНТЫЧНАСЦЬ СУЧАСНЫХ ГАРАДОЎ

Архітэктурнае асяродзе з'яўляецца неад'емным элементам любога горада. Тым не менш, мала хто з гараджан задумваецца пра тое, наколькі навакольнае архітэктурнае асяроддзе, з аднаго боку, фарміруецца пад уплывам глабальных фактараў, такіх як эканоміка ды палітыка, а з іншага боку, абумоўлівае ўспрыняцце навакольнага свету, горада ды нас саміх. Сучасны свет праходзіць перыяд фундаментальных зменаў, ад індустрыялізацыі да пост-індустрыялізацыі, ад лакальных зменаў да глабальнага ўплыву. Гарадская прастора больш не належыць архітэктару ці ўрбаністу, але з'яўляецца складаным механізмам з вялікай колькасцю лакальных і міжнародных актараў. Што такое гарадская ідэнтычнасць, якую ролю яна адыгрывае ў сучасным горадзе і хто яе стварае?



**/ АЎТАР: МАРЫЯ РУСАК /**

выпускніца аднаго з міжнародных каледжаў Red Cross Nordic United World College у Нарвегіі. Скончыла Прынстанскі ўніверсітэт (ЗША) з дыпломам magna cum laude у архітэктуры і гарадскім планаванні. Зацікаўлена рэфармаваннем адукацыйных працэсаў, міждысцыплінарнымі ўрбаністычнымі даследаваннямі і месцам Беларусі ў свеце. Аўтар аналітычнага праекта ideaby.org. У дадзены момант атрымоўвае ступень магістра па ўстойлівым гарадскім планаванні і дызайне ў Каралеўскім Тэхналагічным Універсітэце (Стакгольм).

Горад пост-індустрыяльнай эпохі адрозніваецца ад горада дваццатага стагоддзя і формай, і сутнасцю. Замест класічнага горада як цэнтру вытворчасці прыходзіць горад пост-індустрыяльны, дзе другасная індустрыя замяняецца эканомікай сэрвісу, паслугаў ды ідэй. Жыццё жыхароў пост-індустрыяльнага горада неабавязкова дакладна звязанае з месцам працы: вялікія прамысловасці больш не з'яўляюцца галоўным горадаўтвараючым фактарам. Жыхары сучасных гарадоў не павінны жыць побач са сваім месцам працы ды карыстацца спецыяльна прызначаным грамадскім транспартам, каб патрапіць на завод а сёмай раніцы. Падзел на працоўныя ды спальныя раёны паступова замяняецца змешаным тыпам будынкаў ды паслугаў, а новыя тыпы працы нават не вымушаюць перамяшчацца ў гарадской прасторы. У сучасных гарадах большае значэнне маюць сацыяльны ды чалавечы капітал, дзе развіццё тэхналогій ды бізнэсу абумоўліваецца разнастайнасцю і сканцэнтраванасцю ідэй на адносна невялікай геаграфічнай тэрыторыі. Такім чынам, большую ролю пачынаюць адыгрываць грамадскія прасторы, месцы ў горадзе, дзе ёсць магчымасць супрацоўнічаць ды ўзаемадзейнічаць з іншымі актарамі.

Разам з трансфармацыяй сутнасці гарадоў, у пост-індустрыяльным горадзе змяняецца і роля, якую выконвае архітэктар. Замест аўтарытарных фігураў, накшталт Ле Карбузье, прыходзяць вялікія кампаніі, дзе супрацоўніцтва вялікай колькасці людзей з рознымі ідэямі выліваецца ў фінальны крэатыўны прадукт. Больш за тое, маштаб архітэктурных праектаў зменшыўся і стаў больш лакалізаваным: у сучасным свеце цяжка ўявіць, што некалькі архітэктараў могуць атрымаць замову на пабудову цэлага горада наноў, — як здарылася з адбудовай пасляваеннага Менска. Нават у заходнім свеце праекты Роберта Мозеса, які перакраіў Манхэтан у 1960-х, сёння падаюцца зусім нерэальнымі. У сучасным свеце абсалютнага панавання капіталу архітэктар больш не мае таго ўплыву, які меў у час узмоцненага дзяржаўнага кіравання. Эпоха таталітарнага тэхнакратычнага ўрбанізму прайшла, і адпаведна зменшылася



Нерэалізаваны праект Роберта Мозеса



Хмарачосы Гхеркіна, Лондан

роля архітэктара ў фарміраванні гарадской прасторы і гарадской ідэнтычнасці.

Такім чынам, цяжка казаць пра нейкую ўніверсальную форму ўплыву архітэктара на фарміраванне сучаснай гарадской ідэнтычнасці. У залежнасці ад палітычнай прасторы і метадаў кіравання горадам і капіталам адрозніваецца ступень свабоды архітэктара. У выпадку краінаў, дзе пануе вольны рынак, уплыў архітэктара значна абмяжоўваецца жаданнямі заказчыка, які адпаведна і фінансуе праект. Роля інвестараў і заказчыкаў у фармаванні гарадской ідэнтычнасці ў такіх гарадах як Нью-Ёрк ці Лондан непараўнальна большая, чым роля архітэктараў. На жаль, у большасці выпадкаў жаданні кліента выконваюцца насуперак прафесійным ці эстэтычным поглядам, прыклады чаго мы бачым у Менску, Маскве ці Шанхаі. У краінах з іншымі метадамі кіравання гарадскія ўлады могуць выступаць галоўным заказчыкам, і такім чынам роля архітэктара менш камерцыялізаваная і можа мацней уплываць на фарміраванне гарадской прасторы ды ідэнтычнасці. Тым не менш, і прыватныя, і дзяржаўныя заказчыкі ўсё больш пачынаюць цікавіцца стварэннем сімвалаў горада, якія адпаведна маглі б уплываць і на стварэнне ідэнтычнасці. І хмарачос Гхеркіна ў Лондане, і гмах CCTV у Бейджынгу, і будынак нацыянальнай бібліятэкі ў Менску, і скульптура згушчонкі у Рагачове пераследуюць аднолькавую ідэю: стварэнне адметнага элемента, элемента горада, праз які можна выбудоўваць новыя сэнсы і новую ідэнтычнасць.

Чаму менавіта зараз пытанне гарадской ідэнтычнасці, адметнасці ды "аўтэнтычнасці" паўстае найбольш востра? Праз глабалізацыю капіталу, культуры і палітыкі вялікія гарады ўсяго свету паступова страчваюць сваю ідэнтычнасць. Адпаведна апісанню філосафа Мішэля Фуко, сусветныя гетэратопіі пашыраюцца і растуць: глабальныя гарады выглядаюць усё больш аднолькава. Незалежна ад таго, у Еўропе ты ці Азіі, ежа, звычкі ды месцы становяцца ўсё больш падобнымі.

***Гетэратопіі — гэта складаныя паралельныя прасторы, якія набліжаюць утопію ці нейкую ідэю без яе фізічнай ці прадметнай прысутнасці.***

Адпаведна Фуко, бізнэс-цэнтры, цягнікі, аэрапорты, шопінг-молы, супермаркеты, міжнародныя сеткі рэстаранаў і кавярняў прадстаўляюць сабой гетэратопіі. Яны з'яўляюцца сімваламі глабалізаванага свету, ствараючы квазівіртуальную прастору і дазваляючы жыхарам сучасных гарадоў перанесціся туды, дзе іх няма. Досвед знаходжання ў шопінг-моле "Сталіца" ў Менску будзе параўнальным з досведам у шопінг-моле ў любой іншай частцы свету, напрыклад у Ганконгу. Кава "Старбакс" у Вільні будзе мала адрознівацца ад такой жа кавы ў

**РАІЦЬ ЧЫТАЦЬ:**

**Мішэль Фуко.**
Of Other Spaces

Нью-Ёрку, але добра гэта ці дрэнна — пытанне больш складанае. З пашырэннем глабалізацыі ды вольнага рынку, з развіццём бізнэс-сетак і кавярняў ідэнтычнасць пост-індустрыяльных гарадоў нівеліруецца. Больш за тое, глабалізацыя міжнародных архітэктурных офісаў, якія будуюць падобныя праекты ў розных частках свету, яшчэ больш ускладняе пытанне штучнага стварэння ідэнтычнасці гарадской прасторы.

Феномен гетэратопіі шырока ўжываецца урбаністамі для таго, каб зразумець праблему ідэнтычнасці як цэнтральнага пытання вялікіх глабальных шматнацыянальных гарадоў. Што можна паставіць у супрацьвагу аднолькавым бізнэс-цэнтрам і хмарачосам? Лакалізацыя і ідэнтыфікацыя горада можа адбывацца не толькі праз знешняе аблічча архітэктурнага асяроддзя.

***Гарадская ідэнтычнасць пост-індустрыяльнага горада больш не ствараецца таталітарным архітэктарам ці урбаністам у лепшых традыцыях мадэрнізму, але яго жыхарамі.***

Грамадскія прасторы, месцы для супрацоўніцтва ды ўзаемадзеяння павінны стаць галоўным элементам стварэння ідэнтычнасці горада. Неабходна, каб гараджане пачалі ўсведамляць сваю адказнасць за фарміраванне гарадской прасторы і, адпаведна, сябе як жыхароў гораду. У паспяховым пост-індустрыяльным горадзе беларускі падыход “мая хата з краю” не мае права на існаванне.




Помнік згушчонкі, Рагачоў

***Каб Менск паспяхова і ўстойліва развіваўся, гараджане павінны ўсвядоміць сябе як галоўных уласнікаў горада і заказчыкаў будучага развіцця.***

Старбакс, Парыж




Нават зараз Менск існуе ў паралельных рэчаіснасцях: ёсць Менск, у якім шмат ідэяў і месцаў куды пайсці, выставаў, імпрэзаў і мажлівасцей для развіцця, а ёсць Менск, дзе няма чаго рабіць і што паказаць. Метады і маштабы “атрымання ўласнасці” над горадам могуць быць розныя: ад грамадскіх абмеркаванняў да супрацоўніцтва з суседзямі, ад высвятлення, чаму ўсё-ткі вырубаюць дрэвы побач з домам, да таго, каб не паркаваць аўтамабіль на дзіцячай пляцоўцы. Разуменне, што горад — гэта складаны механізм, дзе ўсе актары павінны супрацоўнічаць і ўзаемадзейнічаць адзін з адным, неабходнае для таго, каб уцяміць, што горад належыць яго жыхарам.

Стварэнне ідэнтычнасці пост-індустрыяльнага горада — складанае пытанне, у якім задзейнічана шмат гульцоў. Калі ў эпоху індустрыялізацыі ідэнтычнасць горада вызначалася галоўным горадабудаўнічым прадпрыемствам, то ў эпоху пост-індустрыялізацыі пытанне ідэнтычнасці паўстае праблематычным. Архітэктар не можа мець і больш не мае адзінага правільнага тэхнакратычнага вырашэння гэтай праблемы. Усведамленне гарадской ідэнтычнасці з’яўляецца галоўным элементам паспяховага збалансаванага развіцця, якое будзе пазітыўна ўплываць як на жыхароў горада, так і на яго эканоміку, забяспечваючы зацікаўленасць бізнэсу і інвестыцый. Жыхары горада ствараюць новую ідэнтычнасць, і кожны павінен задаць сабе пытанне, якім ён бачыць сабе будучы Менск. Ці будзе гэта горад інавацыі і ідэй, месца, куды можна прыехаць за новымі думкамі, ці будзе ён зборам выпадковых забудоваў не самых лепшых прыкладаў камерцыйнай бізнэс-архітэктуры 2000-х — вырашаць нам, як жыхарам горада. ●

# З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭТЫЧНАЙ УРБАНІСТЫКІ

Роўна 90 гадоў таму ўбачыў свет паэтычны зборнік "Па беларускім бруку" Андрэя Александровіча. Кніжка адразу прыцягнула ўвагу: усё з яе старонак быццам казала і нават крычала, што беларуская паэзія — гэта не толькі сялянская, вясковая традыцыя, што гарадскія тэмы, рытмы, матывы ёй таксама зусім не чужыя, а наадварот — прыжываюцца і адчуваюць сябе ўжо ўпэўнена. Вокладку ўпрыгожвае гарадскі краявід з брукам і камяніцамі, правадамі і ліхтарамі, фурманкамі і аўтамабілямі, заводамі і фабрыкамі. На малюнку пазнаецца тагачасны Менск з яго галоўнай вуліцай Савецкай (былой Захар'еўскай, цяпер — праспект Незалежнасці). Хоць падобна, што дакладна такога месца на гэтай вуліцы не было: перад намі — абагульнены вобраз, створаны невядомым мастаком, чые ініцыялы, пазначаныя ў правым ніжнім куце, падазрона супадаюць з ініцыяламі аўтара кнігі — "А. А."




## НОВЫ МЕНСК

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ**

Вечны гул не спыняе лізаць камяніцы,
вочы глытаюць рэклямы вітрын.
Гадзіньнік – спакойна на менскай званіцы
б'е глухім звонам дванаццаць гадзін.

Як зьвяры, песьняй сталі скрыгочуць машыны,
блудніцай бегае сонца ля сьцен.
Скрага-жыццё, каб ня страціць хвіліны,
конна імкнецца шукаць сабе зьмен.

Акрываўленай хваляй Менск складкі на твары
змыў з сябе, стаў разьвясёлы юнак.
Песьняй крынічаць! Забаўна штукарыць.
Гудзіць у грудзёх яго Нёмнам вясна.

Спалоханы вецер таемна на стрэхах
за комін прысядзе, коса зірне.
Сонца сьвятла жменю кіне ў прарэху
волату Менску, а разам і… мне.

Баяцца яго, бо пачне бурапеніць;
вуліцай глянь – шмат хто носіць сіняк.
Адстанеш – заменіць сьвінцоваю зьменай!
О, Менск, ты і я – маладняк!

1923 г.

Шарж на А. Александровіча. 1932 г.
Цфанія Кіпніс

Большую частку зборніка “Па беларускім бруку” займае першы раздзел “Рытм гораду”, які, у сваю чаргу, адкрываецца вершам “Менскі рытм” — гэткім “маніфестам у маніфесце”. Відавочна, Андрэй Александровіч быў настроены на тое, што пэўная частка чытацкай аўдыторыі не ўспрыме ягоную эстэтыку. ***“Тым кажу, / каму наша песьня чужая; / праводжу мяжу, / пачынаю”***, — звяртаецца аўтар да сваіх непрыхільнікаў на самым пачатку кнігі. І надалей ён не ўпускае магчымасці падражніць абывацеля, для якога гарадская пралетарская паэзія, да таго ж на беларускай мове, гучала нязвыкла і ўспрымалася як выклік, эпатаж. Натуральна, што асноўным чытачом кнігі А. Александровіча быў яго сучаснік, малады інтэлігент, выхадзец з рабочага асяродку — такі, як і сам аўтар. І гэта праслойка грамадства ў той час была ўжо даволі масавай. З пачатку 1920-х гг. Менск ператварыўся ў культурны і навуковы цэнтр Беларусі. Былі заснаваныя Белпедтэхнікум і Белдзяржуніверсітэт (у абодвух гэтых установах вучыўся і сам аўтар кнігі), Інбелкульт, пазней утварылася Акадэмія навук, першым прэзідэнтам якой стаў вядомы гісторык Усевалад Ігнатоўскі. Прысвечаны яму верш ёсць у разгляданай кнізе А. Александровіча. Праўда, акцэнт там робіцца не на дзейнасці Ігнатоўскага-вучонага, а на яго колішнім удзеле ў падпольнай барацьбе пры польскай акупацыі. Паэт усклікае: ***“Беларусь маладая, вітаем / мужыка-комуніста — наркома”***. Строга кажучы, тагачасны наркам асветы У. Ігнатоўскі быў не “мужыцкага” (сялянскага) паходжання: нарадзіўся ён у сям'і вясковага святара. Аднак папаўненне шэрагаў нацыянальнай эліты за кошт выхадцаў з сацыяльных нізоў было сапраўды характэрнай з'явай таго часу.

Але вернемся да верша “Менскі рытм”. Яго скразныя вобразы — фабрычны дым, які “расьцілае свой дыван”, і завод, які “б'е ў барабан”. Увогуле, гарадская атмасфера, адлюстраваная ў вершы, уся напоўненая шумам, песнямі, гукамі: “песьні машын”, “вечар кадрыль адбівае, пеніцца вуліцы звон”, “бі ў барабан, завод!”, “сьпеў молата”, “зьвініць новых дзён варстат”. Шырока прадстаўлены ў гэтым і іншых вершах і зрокавыя, візуальныя вобразы: “дрыжачая сонная сінь”, “чорныя, хворыя фарбы”, “жоўтыя плечы” хлопцаў, “ліхтароў сьвет”, “сьвінцовы пыл”, “рэклямы вітрын”, “чырвоны ліхтар”.

Хуткі, імклівы рытм гарадскога жыцця вымагаў і новых сродкаў адлюстравання — вобразных, лексічных, сінтаксічных. Простага апісальніцтва тут было ўжо недастаткова — паэт



**/ АЎТАР: ВІКТАР ЖЫБУЛЬ /**

**літаратуразнаўца, архівіст, паэт. Кандыдат філалагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. Сфера навуковых інтарэсаў — беларуская літаратура міжваеннага перыяду, паэтычны авангард, літаратурныя сувязі. Аўтар некалькіх зборнікаў паэзіі, больш за 100 навуковых і навукова-папулярных артыкулаў.**

## МЕНСКІ РЫТМ

Тым кажу,
каму наша песьня чужая;
праводжу мяжу,
пачынаю.

Нырай, фабрычны дым,
у дрыжачую сонную сінь, —
разьвясёлы юнацкі ўздым
пачуеш у песьнях машын!
Прыкры табе гэты дым?
Точыць сэрца тваё, як туман?
Нырай, фабрычны дым!
Расьцілай свой дыван…
Зьвіні, сьпеў малады!
Завод, бі ў барабан!

Дым гэты нашых фабрык
праглыне далікатныя вочы.
Страшна?

Сэрца дрыгвою рагоча?
А як чорныя, хворыя фарбы
ліжуць твар рабочых,
вам ня цікава?

Што? Гэта зброд сьмяцьця?
Гудзіць, гудзіць навальніцай
аблава
за паясьніцай
жыцьця.

А вечар кадрыль адбівае,
пеніцца вуліцы звон.
Вечар прысеў і сьпявае
на рамах фабрычных вакон.

І гэтая песьня вам страшна?
Бі ў барабан, завод!
Дым выганяй на пашу
на шырокі прастор-небазвод.

Ёсьць такія, што ў блеску золата, —
галава, як і грудзі, наўсьцяж.
І прыкра ім, што сьпеў молата
Беларусі Савецкай — наш!

Эх, родная, сталь-машына,
Беларускай рабочай зьвіні!
Песьня тваёй хвіліны
вылівае жалезныя дні.

Хлопцы з дзіцячага дому
купацца ішлі грамадой.
Беларускай зьвінелі, вядома!
Ня ведалі лепшай, другой.




**РАІЦЬ ЧЫТАЦЬ:**

**Мінск незнаёмы. 1920 - 1940.**
Аўтар-укладальнік Ілья Куркоў.
Мінск: «Ураджай», 2002

Рабочы вышаў з хаты,
радасьць кіпіць у грудзёх.
— Зьмена, зьмена багатая, —
думка прабегла ў вачох.

Селянін на рынак ехаў,
каняку спыніў і слухае.
Вочы дрыжаць пацехай,
сэрца ўзьняло завіруху.

А хлапцы паскідалі кашулі:
сонца ліжа іх жоўтыя плечы.
Разьвясёлую песьню загнулі
весела, сьмела, карцеччу…

Не спадабалася песьня дзяўчыне,
павярнулася раптам назад.
Беларуская песьня ня згіне —
ёй зьвініць новых дзён варстат!

Ой, ня знойдзеш ты скора бярлогі,
сутарэньня табе не дадуць!
Улетку насыцяць разлогі…
Шчэ ня вывелі ўсю лебяду.

Гуляй! Прытулак слаўны:
сад, бульвары, сквер.
Але й тут беларускай забаўнай
успорыць цябе піонэр.

І пальлецца песьня звонкая
ды над вольнай над нашай старонкаю.

Мо сэрца і б’е завірухай?
Але тут хоць ня хочаш, а слухай:

“А ў бары, бары
тры дарожанькі”…

1924 г.
Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ



звяртаўся да выштукаваных метафар і параўнанняў: ***“Бурапеніў, буяніў па бруку / вечар — ліпнёвы гармонік”, “блудніцай бегае сонца ля сьцен”*** і г. д. Нездарма згадка пра А. Александровіча ёсць у артыкуле М. Ройзмана “Белорусские имажинисты”, надрукаваным у маскоўскім часопісе “Гостиница для путешествующих в прекрасном” (1924, № 4). І дарэчы: вось адкуль узялося каларытнае слоўца “бурапена”, якім у нас называлі паэтычныя фармальныя пошукі з прэтэнзіяй на арыгінальнасць!

Перадаючы напружаны рытм гарадскога жыцця, А. Александровіч то звяртаецца да ўскладненай метафарыстыкі, то карыстаецца лапідарным, амаль тэлеграфным стылем. Дзякуючы яму, беларуская паэзія загаварыла мовай шыльдаў і плакатаў:

***Афішы — плякаты — вітрыны:***
***даклад — лекцыя — мітынг.***

У гэтым калейдаскопе гарадскіх рэалій шпарка мільгаюць і вобразы гараджанаў. Гэта — хлопцы з дзіцячага дому, рабочыя, праезджыя сяляне, камсамольцы, піянеры, чырвонаармейцы, урэшце — бацька і маці аўтара. Сярод традыцыйнаабагульненых, мала індывідуалізаваных вобразаў рабочых вылучаецца вобраз друкара, якому паэт прысвяціў асобны верш: ***“І дзень і ноч дрыжыць ліхтар, / сьвінцовы пыл у вокны звоніць. / Над касай весела друкар / трымае літары ў далоні / Кладзе ў радкі, бы мосціць брук: / за словам, слова; так артыкул / вясёлай песьняй творыць друк…”, “Гэй ты, крылаты вольны друк, цябе вітаю я, машына!”***. Чаму А. Александровіч услаўляе ў сваім вершы менавіта друкара (а не прадстаўніка якой іншай прафесіі) і вітае менавіта друкарскую машыну? Адказ вымалёўваецца даволі відавочны: “вольны друк” на роднай мове, развіццё выдавецкай справы, а разам з ёю — і беларускай культуры ўвогуле паэт лічыць важнымі дасягненнямі новай дзяржавы. І асоба друкара 1920-х гг. вартая быць апетай у вершы не меней, чым сярэдневечны перапісчык, пра якога пісаў Максім Багдановіч у 1912 г.: ***“Парой ён спыніцца, каб лепей завастрыць / Пяро гусінае, і гляне: сьветла сонца / Стаўпамі падае праз вузкае аконца, / І круціцца у іх прыгожы, лёгкі пыл; / Як сіняваты дым нявідзімых кадзіл”.*** Розныя людзі розных эпох, з рознымі працоўнымі прыладамі, але роля, па сутнасці, адна: пашырэнне адукацыі, культуры, навукі.

Натуральна, што разам з друкам у маладой сталіцы развівалася і літаратура. ***“О, Менск, ты і я — м а л а д н я к!”*** — захоплена ўсклікае паэт. “Маладняком”,



як вядома, называлася літаратурная арганізацыя, створаная ў Менску ў 1923 г. Андрэем Александровічам і пяццю яго калегамі — таксама маладымі паэтамі. Аднаму з іх, Анатолю Вольнаму, прысвечаны адзін з вершаў кнігі, адметны малюнкам гарадской ускраіны, дзе разгуляўся свавольнік-вецер, з якім лірычны герой адчувае ўнутраную блізкасць:

***А па вузкіх, брудных вуліцах***
***ліхтароў сьвет цалуецца з лужамі.***
***Вакеніцы да сьцен бліжэй туляцца, —***
***вось мо’ вецер сарваць і ня здужае…***

Александровічаўскі рабочы, нястомны стваральнік горада і новай культуры, нягледзячы на не заўсёды прыемныя абставіны працы і нават вытворчыя траўмы, глядзіць у будучыню з непахісным аптымізмам і верыць у трыумф тэхнічнага прагрэсу:

***І дзень і ноч машынаў гул***
***цалуе горача рабочых.***
***Таму руку, таму нагу***
***прыцісьне й радасна рагоча:***

***— Станок замяніць соткі рук, —***
***што робіш ноч, ён дасьць хвілінай…***
***Гэй ты, крылаты вольны друк,***
***цябе вітаю я, машына!***

(“Друкар”)

Вядома ж, менскі рабочы не заўсёды стаіць за варштатам: у новых сацыяльна-палітычных умовах ён выходзіць і на авансцэну гарадскога культурнага жыцця і дзяржаўнага будавання са сваёй “беларускай рабочай песьняй”, якая, падкрэслівае паэт, можа быць камусьці і не даспадобы, “але тут хоць ня хочаш, а слухай”. Цікава, што ў фінале верша “Менскі рытм” рабочыя спяваюць песню “А ў бары, бары / тры дарожанькі…”, напісаную Янкам Купалам у 1920 г. пра жаўнера, які паўстае перад выбарам, па якой пайсці сцяжынцы: на Усход, Захад і “родну межаньку”, і ў выніку выбірае менавіта трэцюю. Такі самы геапалітычны выбар, на думку Я. Купалы, мусіла зрабіць




і беларуская нацыянальная эліта, абраўшы самастойнасць. Александровіч увасабленнем гэтай ідэі пабачыў БССР, дзе ў той час праводзілася палітыка беларусізацыі, на якую нацыянальная інтэлігенцыя сапраўды ўскладала вялікія надзеі. І многія лёсавызначальныя для беларускага краю рашэнні прымаліся менавіта ў новай сталіцы — Менску, месцы, дзе ствараліся новая гісторыя і новая эліта.

Менскія рабочыя бавілі вольны час, наведваючы клубы з дакладамі і лекцыямі або проста гуляючы па горадзе: ***“Гуляй! Прытулак слаўны: / сад, бульвары, сквер”*** (“Менскі рытм”);

**Ёсьць няшчасьці—і наўперад**
**Ад такіх выпадкаў**
**Рупна міліцыянэры**
**Сочаць за парадкам.**

***Бурапеніў, буяніў па бруку***
***вечар — ліпнёвы гармонік.***
***Вецер у вокны стукаў,***
***Зьвінелі падковамі коні.***
***Вуліцы гулам абліты,***
***пагоні ўздымалі машыны.***
***Афішы — плякаты — вітрыны,***
***Даклад — лекцыя — мітынг.***

Вечар у Александровіча нездарма асацыюецца з **гармонікам**. Мабыць, менавіта пад гукі гэтага інструмента любілі бавіць свой вольны час менскія рабочыя.

Новая культурная атмасфера горада ўжо адрознівалася ад ранейшай дарэвалюцыйнай, акрэсленай паэтам прыкладна так:

***Аркестра склікае***
***ў кафэ-рэсторан.***
***Тракцір забаўляе***
***песьняй цыган.***

Не абмінуў паэт і такую падзею як Дзень авіяцыі, што адбыўся ў Менску 25 ліпеня 1923 г. Падчас яго быў урачыста перададзены Чырвонай Арміі самалёт “Савецкая Беларусь”, пабудаваны на ахвяраванні працоўных рэспублікі. “У прамовах асабліва падкрэслівалася, што гэта першы самалёт у свеце, які мае на крылах надпісы на беларускай мове”, — зазначае Ілья Куркоў. Андрэй Александровіч напісаў пра гэта верш “Самалёт”: ***“Самалёт “Беларусь” кружыцца, — / сілу памерацъ, падужацца. / Чуеш? схватка! звоняць / кулямёты за кулямётамі. // У сінім бяздонъні пагоня / самалётаў за самалётамі!”***

Пры ўсёй “сталічнай скіраванасці” зборніка ў вершах, што склалі яго, цяжка знайсці згадкі канкрэтных і характэрных рэалій, якія адрознівалі Менск ад іншых гарадоў. Напэўна, самая адметная з іх — гадзіннікавая вежа, што стаяла на плошчы Свабоды і была адной з архітэктурных дамінантаў таго, яшчэ “далангбардаўскага” горада:

***Вечны гул не спыняе лізаць камяніцы,***
***вочы глытаюць рэклямы вітрын.***
***Гадзіньнік — спакойны на менскай званіцы***
***б’е глухім звонам дванаццаць гадзін.***

***Як зьвяры, песьняй сталі скрыгочуць машыны,***
***блудніцай бегае сонца ля сьцен.***
***Скрага-жыцьцё, каб ня страціць хвіліны,***
***Конна імкнецца шукаць сабе зьмен.***

Дарэчы, гэта самая вежа-званіца аздабляе вокладку кнігі А. Александровіча “Горад раніцой” (1930), намаляваную мастаком Барысам Малкіным. Прысвячалі гэтай адметнай пабудове творы і іншыя паэты, — назавем, да прыкладу, Міхайлу Грамыку (“Менская вежа”) і Сяргея Грахоўскага (“Ціхія пенсіянеры”).

Згадваецца ў кнізе “Па беларускім бруку” і рака Свіслач, але не як канкрэтная дэталь, а хутчэй як увасабленне бурлівай, бунтоўнай стыхіі ***(“а Сьвіслач рака / так забаўна / злавала”)*** — намёк на досыць частыя паводкі на рацэ, якая яшчэ не ведала бетонных берагоў, затое ведала

Плябанскую плаціну (раён сучаснага парку імя Янкі Купалы), якая раз-пораз і рабілася прычынай затаплення прылеглых кварталаў. Пры гэтым паэт ведаў, што на званне вялікай і магутнай беларускай ракі, важнай воднай артэрыі прэтэндуе зусім не Свіслач, і таму дазваляў сабе не зусім чаканыя для Менскага кантэксту параўнанні і асацыяцыі: *"Гудзіць у грудзёх яго* [Менску! — ***В. Ж.***] ***Нёмнам вясна"***. Згадка Нёмана адсылае да зусім іншага беларускага горада — Гародні, які А. Александровіч хацеў бы бачыць у складзе тагачаснай БССР — як і Вільню з Беластокам.




*А як вырасту, дык сільны*
*ў Нашу армію пайду.*
*Беласток, Гародню, Вільню*
*я да Менску прывяду, —*

заяўляе маленькі хлопчык у вершы "Буду піонэр!".

Падобна, што ў зборніку аўтар і не ставіў сваёй задачай выяўляць знешнія рэаліі, а адлюстраваць менавіта ўнутраны дух горада. Ужо гэта само па сабе выглядала на той час новай эстэтычнай з'явай. Бо горад традыцыйна не лічыўся асяродкам і носьбітам беларускай культуры і не знаходзіў належнага адлюстравання ў паэзіі. Францішак Багушэвіч у канцы XIX ст. пісаў: "Не люблю я места (па-расейску — горад). / Надта там цяснота і вялікі сморад". Прайшло 3-4 дзясяткі гадоў — і Андрэй Александровіч сцвердзіў адваротнае: менавіта за "цясноту", "сморад", "вечны гул" і "фабрычны дым" горад можна любіць. Паміж гэтымі супрацьлеглымі полюсамі асэнсавання горада ў беларускай паэзіі быў яшчэ адзін знакавы аўтар — Максім Багдановіч, памяці якога прысвечаны фінальны раздзел кнігі "Па беларускім бруку". Відавочна, А. Александровіч зведаў уплыў ягонага "Места", першага ўрбаністычнага цыкла ў беларускай паэзіі. Нават александровічаўская "менская званіца", нягледзячы на сваю канкрэтнасць, міжволі змушае прыгадаць багдановічаўскую вежу з верша "Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!..".

Вільня, пра якую пісаў М. Багдановіч, доўгі час была сінонімам горада, яго галоўным увасабленнем для беларусаў. Прычым у часы Багдановіча беларуская ўрбаністычная паэзія не была масавай з'явай: ён быў бадай адзіным адметным яе прадстаўніком. У 1920-я ж гады, у сувязі з павышэннем сацыякультурнай ролі горада, абумоўленай палітыкай маладой савецкай дзяржавы, гарадская тэма аказалася запатрабаванай значна болей. Да яе пачалі звяртацца многія паэты — хтосьці больш-менш перыядычна, а хтосьці абмежаваўшыся адным-двума вершамі. І ў самым цэнтры гэтай урбаністычнай плыні апынуўся адзін з заснавальнікаў "Маладняка" Андрэй Александровіч, у якога гарадская тэматыка стала дамінантнай, набыла канцэптуальнае ўвасабленне. І — падкрэслім — распрацоўваў яе паэт менавіта на менскім грунце.

Чаму сталася менавіта так? Каб адказаць на гэтае пытанне, варта паглядзець яго жыццяпіс і параўнаць з біяграфіямі іншых літаратараў яго пакалення. Перагартаўшы, напрыклад, анкеты ўсіх удзельнікаў 1-га з'езда "Маладняка" (1925), што захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архівемузеі літаратуры і мастацтва, бачым: пераважная большасць маладнякоўцаў (каля 80 %), паходзіла з вёскі, астатнія — з невялікіх гарадоў і мястэчкаў. Менск жа пазначаны месцам нараджэння толькі аднаго паэта, імя якога — Андрэй Александровіч. З маленства жывучы на Пярэспе, каля Старажоўскіх могілак, ён — бадай адзіны з усяго маладнякоўскага пакалення — бачыў і спасцігаў Менск, так бы мовіць, "знутры". Дык каму яшчэ, як не яму, было наканавана апець яго ў сваіх творах? Вось і атрымалася, што паэт-камсамолец, якому не было яшчэ і дваццаці, стаў лідарам першай урбаністычнай плыні ў беларускай паэзіі і зарадзілася гэта плынь менавіта ў Менску. Апынуўшыся ў савецкім сацыякультурным кантэксце, беларуская літаратура — магчыма, сама таго не ўсведамляючы, — даганяла еўрапейскую. І, адпаведна, немалая роля тут належыць Андрэю Александровічу, у чыёй творчасці адно з галоўных месцаў заняла незапатрабаваная раней урбаністыка. ●




У артыкуле выкарыстаныя малюнкі Барыса Малкіна да зборніка А.Александровіча "Горад раніцай". Менск, 1930 г.



# ЧЫТАЕМ (ПРА) МЕНСК



**/ АЎТАР:
ВОЛЬГА БАБКОВА /**

гісторык-архівіст, літаратар. Працуе кіраўніком літаратурна-драматургічнай часткі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Аўтарка некалькіх апавяданняў і кнігі эсэяў па гісторыі штодзённасці ВКЛ «..І цуды, і страхі» (Мінск, 2010). Лаўрэатка літаратурнай прэміі імя Францішка Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2010). Адна са складальнікаў зборніка дакументаў «Тастамэнты шляхты і мяшчанаў Беларусі др.паловы XVI ст.» (Мінск, 2012).

Гарады можна пазнаваць па паходцы, як людзей, — напісаў аўстрыйскі пісьменнік Роберт Музіль. Упэўненая, разняволеная, няспешная ці з падскокамі хада пакідае свой адбітак на характары горада. Менавіта на характары, якія праяўляецца ў архітэктуры і яе аздобах, шырыні вуліц, прытульнасці паркаў. У гісторыі сусветнай літаратуры ёсць прыклады, калі гарады з'яўляюцца галоўнымі персанажамі твораў разам з іншымі літаратурнымі героямі. Згадайма Лондан, Парыж, Дублін, Варшаву, Істамбул, Пецярбург, Драгобыч… Услед за пісьменнікамі-"тапаграфістамі", такімі, напрыклад, як Павал Гюле, можна зазірнуць у шматлікія завулкі і двары Троймяста, беспамылкова выбіраць патрэбны трамвайны маршрут, каб даехаць у патрэбнае месца ўлюбёных герояў ягоных кніг.

Цікава, што наш Мінск бліскавічна прамільгнуў на старонках раманаў славутых аўтараў Генры Мілера, Джоан Роўлінг, у нататках нобелеўскага лаўрэата Ісака-Башэвіса Зінгера, які ў 1926 годзе пасля кароткага візіту ў горад застаўся ўражаны ягонай моўнай паліфаніяй: "***Гэтыя чатыры мовы — беларуская, расійская, польская і ідыш — сустрэлі мяне на вакзале. Яны глядзелі на мяне зверху, з шэрай сцяны… Я сутыкаўся з імі на кожным кроку, у кожным наркамаце, кожнай канторы — паўсюль***…"[1]

Кожны з беларускіх пісьменнікаў, хто пісаў пра Мінск, таксама пакінуў след не толькі ў літаратуры, але і ў стварэнні свайго персанальнага гарадскога міфу, адпаведнага ўласнай пісьменніцкай "паходцы".





Сястра

## КУЗЬМА ЧОРНЫ

**Кузьма Чорны,** стваральнік першага беларускага інтэлектуальнага рамана **"Сястра",** змясціў сваіх герояў на вуліцах Менска ў перыяд пострэвалюцыйных пераўтварэнняў. Горад сярэдзіны 20-х гадоў паўстаў перад чытачамі напоўненым грукатам конкі, стукам колаў па бруку, крыкамі паравікоў і пеўняў, зыкам званоў ды спевамі гарадскіх птушак. Горад, дзе ў цесных пакойчыках, у піўных, у кавярні на вуліцы Каломенскай, на вакзалах і скверах героі вялі спрэчкі і разважалі пра сэнс існавання. Гэты горад пах вільготнай свежасцю і вапнай ад тынкаваных камяніц, драўляныя тратуары гойдаліся пад нагамі, а вада Свіслачы ўвечары мацней пахла гарадской цеснатой. Чорнага называюць "беларускім Дастаеўскім", ягоныя героі ў сваіх развагах сягаюць глыбей за палітыку і грамадскія стасункі, а Менск паўстае жывым і рухомым горадам, якога вялікая літаратура выводзіць за глухія рамкі правінцыйнасці.



**Янка Юхнавец**

Ілюстрацыяй да рамана "Сястра" падаюцца мне пазнейшыя радкі паэта-эмігранта **Янкі Юхнаўца**, які адчуваў страчаны для сябе горад на слых і дотык.

Вецер у Менску здаецца мне белы.
Між руінаў — ён песьня недапяяная.
І калі б Сьвіслач паводкай не шумела,
ўсе чулі б вецер з водарам падвалаў.

**РАІЦЬ ЧЫТАЦЬ:**

**Антон Адамовіч.** Каханы горад

**Алесь Асташонак.** Жоўты колер белага снегу

**Альгерд Бахарэвіч.** Шабаны

**Ігар Бабкоў.** Хвілінка

**Марыя Вайцяшонак.** Апавяданні з кніг «Сад нявіннасці», «Кола»

[1] Э.Бэмпарад. Ідышысцкі эксперымент у савецкім Менску. ARCHE Пачатак № 11, 2007






## АРКАДЗЬ КАПІЛАЎ

Вядома, што вялікія падзеі могуць адбывацца толькі на велізарных прасторах, але літаратура здольная перайначваць звыклыя ўяўленні. Вялікія па сваім трагізме падзеі адбываліся на малым лапіку Мінска — раёне старажытнага Замчышча ў 1942-43 гадах. Пра іх напісаў у сваёй кнізе **“Замкавая 2/7” Аркадзь Капілаў**. Даўно няма на мапе горада вуліц Падзамкавай, Старамясніцкай, Новамясніцкай, Нізкага рынку, Татарскіх агародаў, Замкавай гары. Няма і знаку пра жыццё, якое віравала тут да вайны і было знішчана разам з мінскім гета. Але людзі, якія жылі на Замчышчы, падзеі, гісторыі і сны, што сніліся менавіта тут, гукі, колеры, гульні, забабоны — усе гэтыя складнікі жыцця апісаны Капілавым з незвычайнай цеплынёй і любоўю. Так, на Замчышчы паветра пахла водарам настоенага кропу, асабліва калі вецер дзьмуў з боку ўрочышча Людамент, мокрых агародаў, пылам, прыбітым вадой, якой жанчыны ў спякоту палівалі з місаў тратуары, а таксама дзёгцем, якім змазвалі колы фурманак. З красільні, што была на вуліцы Няміга ля Рыбнага рынку, цягнула зусім іншымі пахамі, як і з мясных ятак на Траецкім рынку, куды трэба было падымацца па драўляным мосце, на якім хлопцы лавілі арэхавымі вудамі рыбу і тут жа прадавалі яе. Усе тыя, хто жыў у раёне Замчышча, наўрад ці лічылі сябе героямі ў гэтым жыцці, але, дзякуючы свайму суседу пісьменніку Аркадзю Капілаву, сталі героямі аповесці і тым самым засталіся ў ментальнай гісторыі горада, як і ўвесь той свет, знішчаны ўвадначассе.





## СЯРГЕЙ ПЯСЕЦКІ, МОЙШЭ КУЛЬБАК

Сярод тых, хто любіў Мінск і ведаў ягоныя таямніцы, быў таксама **Сяргей Пясецкі**, які ў сваёй вядомай **зладзейскай трылогіі** дэтальна апісаў Мінск у перыяд ад вясны 1918 па жнівень 1919 года. (Па сцежках ягоных літаратурных герояў сёння водзяць адмысловыя экскурсіі). Згадайма таксама **Мойшэ Кульбака і ягоны раман “Зельманцы”**, дзея якога адбываецца ў адным мінскім двары (на ягоным месцы пасля з’явіцца фабрыка “Камунарка”), а насамрэч ахоплівае цэлы сусвет.



Пералічаных аўтараў даўно няма, а “іх горад” засяляецца ўсё новымі цікаўнымі чытачамі.

Пра Менск-Мінск пішуць фантастычна цікавыя тэксты нашы сучаснікі. Сюжэтныя лініі іх твораў, як лініі метро, разгаліноўваюцца ў бок самых нечаканых закуткоў горада і душаў яго герояў. З усяго гэтага спакваля паўстае тэкст культуры нашага часу. ●

# ПАМЯЦЬ ПРА ВАЙНУ І МІНСК:

## САВЕЦКІЯ І ПОСТСАВЕЦКІЯ ЗМЕНЫ КУЛЬТУРНАГА ЛАНДШАФТУ



**/ АЎТАР: АЛЯКСЕЙ ЛАСТОЎСКІ /**

сацыёлаг, даследчык гістарычнай памяці і нацыянальнай ідэнтычнасці. Скончыў гістарычны факультэт БДПУ (2000 г.), кандыдат сацыялагічных навук (Інстытут сацыялогіі НАН Беларусі, 2007 г., тэма дысертацыі "Спецыфіка фарміравання калектыўнай ідэнтычнасці ў моладзевай контркультуры"). З траўня 2013 г. — кіраўнік аддзялення найноўшай гісторыі Беларускага Калегіюма. Навуковыя інтарэсы: гістарычная памяць, палітыка памяці, нацыянальная і этнічная ідэнтычнасць, гісторыя нацыяналізму.

**РАІЦЬ ЧЫТАЦЬ:**

**Алейда Ассман.** Длинная тень прошлого: Мемориальная культура и историческая политика

Сталіца выконвае вельмі важную ролю для дзяржавы. Яна не толькі з'яўляецца цэнтрам кіравання і размеркавальнікам рэсурсаў, яна рэпрэзентуе сабою моц і веліч дзяржавы, увасабляе канон нацыянальнай ідэнтычнасці і гістарычнай памяці. Вялізную ролю тут адыгрывае культурны ландшафт, пераўтварэнне гарадской прасторы ў адпаведнасці з культурнымі стратэгіямі і ўладнымі патрэбамі. Ландшафт складаецца не толькі з будынкаў, помнікаў, назваў вуліц. Ён не можа жыць і не існуе без пастаянных практык уключэння гарадской прасторы ў разнастайныя формы дзейнасці. Калі мова ідзе пра культурны ландшафт сталіцы, то адна з галоўных функцый для яго — служыць пляцоўкай для найбольш урачыстых дзяржаўных святкаванняў, дзе разнастайныя сімвалы гісторыі і сучаснасці мусяць злучыцца ў арганічны ансамбль нацыянальнага праекта.

У дадзеным выпадку нас цікавіць Мінск і тая роля, якую ён выконвае для гістарычнай палітыкі ў незалежнай Беларусі. Асноўныя дэбаты, якія вядуцца адносна выкарыстання беларускай уладай гісторыі, датычаць ступені пераемнасці з савецкай эпохай, наколькі мы можам казаць пра аднаўленне ў сучаснасці сімвалічных кадоў, уласцівых камуністычнай Беларусі. Мне выдаецца, што аналіз сталічнага культурнага ландшафту можа таксама стаць важкім аргументам у гэтых спрэчках.

Мінск быў адной са сталіц савецкіх рэспублік, але і тады меў свае ўласцівасці. Горад быў вельмі моцна зруйнаваны падчас Другой сусветнай вайны, пасля ж вайны стаў пляцоўкай для амбітных горадабудаўнічых праектаў, што прывяло да з'яўлення новага культурнага ландшафту, які быў накіраваным у светлую будучыню ("горад Сонца") і практычна пазбаўленым гістарычнага падмурку.

Прынцыповым для горада стала тое, што ён быў уключаны ва ўладную гульню "партызанскага клана", які пераняў рычагі кіравання ў БССР. Удзел беларускага народа ў Перамозе над фашызмам, гераізм беларускіх партызанаў і падпольшчыкаў — усё гэта выкарыстоўвалася і для таго, каб падмацаваць легітымнасць мясцовага партыйнага кіраўніцтва, нават не столькі ўнутры краіны, колькі ў спаборніцтве савецкіх рэспублік за прэстыж і рэсурсы. Закладнікам гэтай барацьбы за прызнанне стаў Мінск. Ужо з 1942 г. кіраўніцтва БССР і мясцовыя архітэктары распрацоўвалі планы па стварэнні з горада помніка гераічнай барацьбе беларускага народа (практычным увасабленнем гэтых пражэктаў якраз і стала будаўніцтва манумента Перамогі, распачатае ў 1949 г., калі вуліцы горада яшчэ ляжалі ў руінах). Зацятая барацьба за наданне Мінску статусу "горада-героя" таксама мела свае наступствы для гарадскога ландшафту: вуліцы і плошчы сталі называцца ў гонар савецкіх военачальнікаў, партызан і падпольшчыкаў. Вынік маем адпаведны:

***паводле праведзеных у 2008 г. падлікаў 15,4% назваў вуліц Мінска мелі дачыненне да Вялікай Айчыннай вайны,***

што яўна вылучаецца нават у параўнанні з іншымі "гарадамі-героямі" (у тым жа Кіеве 8,4% назваў былі звязаныя з ваеннай тэматыкай). Велічныя манументальныя комплексы, Курган Славы і Хатынь, таксама былі створаны непадалёк ад Мінска, што яшчэ больш інтэнсіўна звязвала сталічны ландшафт з Вялікай Айчыннай вайной.

Звонку выдаецца, што гістарычная памяць пра Перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне (з адначасовым падкрэсліваннем выбітнай ролі беларускага



Кастрычніцкая плошча, 1952 год. Помнік Сталіну ў цэнтры плошчы

народа) была цалкам перанята Аляксандрам Лукашэнкам і выкарыстоўваецца сучаснай беларускай уладай для фармавання дзяржаўнай ідэалогіі і нацыянальнай ідэнтычнасці. Гэта часам дае падставы некаторым даследчыкам казаць пра "савецкасць" незалежнай Беларусі, дзе гістарычная палітыка ўлады як быццам толькі рэтранслюе створаныя ў БССР сімвалы і інтэрпрэтацыі. Своеасаблівым індыкатарам аднаўлення такой палітыкі лічыцца і адсутнасць маштабных перайменаванняў вуліц і плошчаў у Мінску, больш за тое, нават пры ўвядзенні новых назваў па-ранейшаму выкарыстоўваецца тэма Вялікай Айчыннай вайны; за незалежны перыяд у гарадскі ландшафт сталіцы дадалося яшчэ 8 новых ваенных назваў.

Але трэба адзначыць вельмі істотныя разрывы, якія сведчаць пра новы характар гістарычнай палітыкі. Падкрэсліванне ўнікальнай ролі беларускага народа ў Перамозе набывае гіпертрафіраваныя рысы, часам нават зацямняючы сабою галоўнага героя ранейшай эпохі — "савецкі народ". Узрасла і ацэнка трагічных ахвяр беларусаў падчас вайны, калі ў машэраўскую эпоху была кадыфікаваная колькасць ахвяр як "кожны чацвёрты", то ў апошні час яна была істотна падвышаная да "кожнага трэцяга". Калі ў савецкія часы казаць пра выключную ролю беларусаў можна было толькі ў кантраляваных Масквою рамках (бо гэта закранала інтарэсы іншых народаў, якія прэтэндавалі на сваё пяршынства, найперш рускіх і украінцаў), то зараз гэтыя абмежаванні зніклі. Перамога ў Вялікай Айчыннай вайне стала галоўным гераічным дасягненнем беларусаў, а беларуская ўлада — галоўным носьбітам і ахоўнікам памяці пра Перамогу.

Іншы семантычны зрух звязаны з дэперсаналізацыяй вайны. Адна з асаблівасцей савецкага канона Перамогі — гэта апеляцыя да гераічных постацей, правадыроў і простых ваяроў, з учынкаў і здзяйсненняў якіх будаваўся калектыўны подзвіг. У незалежнай Беларусі канон Перамогі будуецца на іншых падставах, дзе прыярытэт надаецца калектыўнаму суб'екту: "ветэранам", "беларусам", "народу". Зноў жа, было адзначана, што ў школьных падручніках па гісторыі Беларусі ХХ ст. знікаюць імёны, — гэта датычыць таксама і перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Яскравым увасабленнем гэтай тэндэнцыі стала перайменаванне праспекта Машэрава ў праспект Пераможцаў у 2005 годзе. І справа не толькі ў тым, што нязгасная папулярнасць Машэрава камусьці замінала. Увядзеннем новага (і бяскрыўднага) маркера беларуская ўлада замацоўвала свой кантроль над тэрыторыяй, якой зараз адводзіцца галоўная роля ў практыках святкавання найважнейшых дзяржаўных святаў.

Фактычна адбылася замена цэнтральнай восі Мінска, якая мусіць злучаць галоўныя аб'екты і з'яўляецца пляцоўкай для ўрачыстасцей. У спадчыну ад БССРаўскіх часоў Мінску засталася галоўная магістраль ад плошчы Незалежнасці (раней Леніна, дзе месціліся органы ўлады) да плошчы Перамогі. Можна назіраць, як гэты нерв сталіцы паступова губляе сваё значэнне. Ён па-ранейшаму выкарыстоўваецца толькі як прастора для правядзення ўрачыстага шэсця 9 мая. Але і

**само святкаванне Дня Перамогі страціла свой прыярытэт на карысць Дня Незалежнасці,**

апошні ж Дзень Перамогі-2015 паказаў, наколькі змененая сімвалічная геаграфія сталіцы. Урачыстае шэсце ад плошчы Незалежнасці да плошчы Перамогі прайшло пры невялікай колькасці гледачоў, амаль пры поўнай адсутнасці аховы (і гэта не зважаючы на ўдзел у цырымоніі Аляксандра Лукашэнкі). Асноўным жа пунктам святочнай праграмы стаў парад, які і сабраў натоўпы гледачоў, ён якраз і праходзіў уздоўж праспекта Пераможцаў (таксама як і святочныя парады на

Дзень Незалежнасці). Менавіта там па задуме зараз мусіць біцца сэрца сталіцы.

І ўрэшце трэба згадаць пра будаўніцтва новага музея Вялікай Айчыннай вайны. Адзін з істотных сімвалаў савецкага канона, стары будынак музея, якраз і знаходзіўся ўздоўж старой цэнтральнай восі. Актуальным мэтам улады ён не адпавядае: памеры сціплыя, няма патрэбнай дозы пафасу, да таго ж, месцазнаходжанне не адпавядае зменай сімвалічнай геаграфіі. Новы будынак быў узведзены адпаведна ўзрослым патрабаванням. І ў правільным месцы. Старому ж будынку наканавана знікнуць.

Калі вярнуцца да галоўнага пытання пераемнасці з гістарычнай палітыкай БССР, то прыведзеныя вышэй маніпуляцыі ўлады Рэспублікі Беларусь сведчаць хутчэй не пра пераемнасць, а пра прысвойванне. Сцяг Перамогі быў перахоплены, але сімвалічны рэпертуар зменены, і яму нададзена іншае, новае значэнне: служыць патрэбам новай улады і новай краіны. Істотную ролю пры гэтым адыграла перафарматаванне сталічнага ландшафту, дзе ўзнікла новая цэнтральная магістраль для ўрачыстай рэпрэзентацыі дзяржаўнага праекта нацыянальнай ідэнтычнасці. ●





Расчыстка плошчы Незалежнасці ад руін, 1945 г.





Вуліца Леніна, раён выхаду да плошчы Свабоды, 1949 г.



Дамініканскі кляштар св. Томаша Аквінскага (каля 1622 году), 1950 г.






Гарадскія кварталы, 1944 г.



# ПАРТИЗАНСКИЙ ПРОСПЕКТ VERSUS НЕМИГА

Улицы, взятые в качестве объектов сравнения, избраны не случайно. Каждая из них дает представление об особом типе символизации и оба этих типа борются за признание в масштабах всего города-общества.



**/ АВТОР: ЮЛИЯ ЧЕРНЯВСКАЯ /**

этнокультуролог, писатель, журналист, профессор Белорусского государственного университета культуры и искусств, автор и ведущая программ на портале tut.by, основательница литературного клуба “GRAPHO”. Научные интересы: этническая культурология, семиотика культуры, культура повседневности, в частности, советской. Автор ряда книг по культурной антропологии, последняя — «Белорусы от „тутэйшых“ — к нации» (2010).

**СОВЕТУЕТ ЧИТАТЬ:**

**Александр Станюта.** Городские сны,
**Ігар Бабкоў.** Хвілінка

Слово **«НЕМИГА»** известно еще из «Слова о полку Игореве». Улица, возникшая на месте реки и уничтоженного древнего Замчища, одна из немногих сохранила историческое название. Большинство соседних улиц многократно переименовывалось (например, проспект Сталина — Ленинский проспект — Проспект Скорины — Проспект Независимости). Почему этот процесс не затронул одну из центральных улиц — Немигу?

Думается, причин несколько. В первую очередь та, что Немига находится в окружении небольшого количества улиц, играющих роль резерваций исторического прошлого. Процесс их сохранения и реставрации начался с 80-х гг. в силу конструирования национальными элитами новой версии истории. В противовес историографии, отсчитывающей этническую историю белорусов от воцарения советской власти, новая этноистория центрировалась на Великом княжестве Литовском как «золотом веке». После перестройки она была перенята официальной историографией, а затем вновь приобрела оппозиционный статус. В свете последнего переименование улицы было бы возможно, если бы не аналогичное название станции метро и не связанная с ним трагедия 31 мая 1999 г. И, наконец, будучи географическим центром города, Немига не является официальным центром. Она — «периферия центра», и ее переименование не столь насущно. Основную часть Немиги занимает титаническое конструктивистское здание, называемое «домом на Немиге», заменившее частную застройку, существовавшую тут до 1980-х годов.

Немига — улица с историей, и даже нынешний новодел — построенный на ней торговый центр — исполнен в том компромиссном стиле, которым власти города руководствуются в отдельных сегментах центра: как бы «под старину», «под Европу», но новенькую, просторную, «лакированную». Тем не менее, если где-то в Минске и слышен отклик бурной и древней истории, то именно здесь (и не случайно долгие годы как раз в окрестностях Немиги производились археологические раскопки).



Улица Немига, 1926 г.

**ПАРТИЗАНСКИЙ ПРОСПЕКТ** («хрущевки» в сочетании с редкими 9- и 14-этажными строениями) был отстроен в 70-е гг. и с тех пор лишь благоустраивался. В отличие от Немиги, где живет интеллигенция, Партизанский проспект заселен рабочими четырех окрестных заводов.

Большинство театров и музеев находится в десяти-пятнадцати минутах от **НЕМИГИ**. То же касается церквей: в окрестностях Немиги и прямо на ней находятся четыре. Следствием этого является связь жителей Немиги с церковью (церковные лотки в магазинах и на улице, продажа постных полуфабрикатов в универсаме, множество нищих). Возможно, в этом прослеживается и попытка «замолить историю». «Дом на Немиге» считается «несчастным»: его жителями фиксируется большое число ранних смертей и самоубийств, происходящих в нем. В эту же копилку «падают» и трагедия 1999 г., и то, что в годы войны Немига с окружающими улицами относилась к еврейскому гетто, уничтоженному в 1942 г. (место расстрела называется «Ямой»), и исторические бои, проходившие в этом районе. Оттого жители дома часто говорят, что он стоит «на костях». Беды нередко объясняются «грешностью места»: так, трагедия на Немиге трактуется как кара за мирской характер гуляний в праздник Святой Троицы. Муссируется тема наводнений: весной низина, где находится улица, часто заливается дождями. Популярен образ обреченности «дома на воде» (модификация петербургского мифа о городе на воде). Само место жители дома тоже называют «ямой», как и место расстрела гетто. Удвоенный символ ямы (гетто и улица) отсылает к Хаосу: в этом месте земля становится тонкой кожурой, прикрывающей подземелье.

Вид на квартал со стороны берега реки Свислочь, в районе площади 8 марта, 1950 г.



**ПАРТИЗАНСКИЙ ПРОСПЕКТ** не продуцирует мифов: его символический капитал зиждется на сочетании «военные и трудовые победы». Война прочитывается в партизанском контексте: станция метро «Партизанская», ресторан «Партизанский бор», памятник партизанам и т.д. Этот контекст сочетается с «заводским» (метро «Автозаводская», «Тракторный завод»).

Партизанский проспект, 1949 г.





Партизанский проспект, наше время

**НЕМИГА** — улица шума и толчеи: городские торжества осуществляются на пересекающем ее проспекте Победителей. Неформальные празднества продолжаются до утра. Если учесть наличие прицерковных бомжей и грабителей, которых манит к себе «дом», то жизнь улицы предстает шумной, «европейски-порочной» (наличие казино, кафе и т.д.) и небезопасной.

Жители **ПАРТИЗАНСКОГО ПРОСПЕКТА** исповедуют противоположный быт: ранний подъем и ранний отход ко сну, шествие по магазинам, тишина парка 50-летия Октября. Социальный капитал населения зиждется на официальной идеологии. При этом Партизанский проспект широк, ухожен, патрулируется милицией, потому жить на нем удобнее, чем на окрестных улицах. Это — «центр периферии».

Улица Немига, 2009 г.





На первый взгляд Партизанский проспект воплощает прошлое, а Немига — современность. Однако это лишь на первый взгляд. «День сегодняшний» Немиги имеет связь с сакральным и/или историческим прошлым. Партизанский же проспект представляет собой облик «светлого будущего», который продуцируют белорусские масс-медиа.

Можно говорить о двух накладывающихся друг на друга типах «габитуса». Внерефлексивный и незыблемый взгляд на мир более выражен у жителей Партизанского проспекта. Самопонимание жителей Немиги менее устойчиво — по причинам бытовым (шум, большие торговые центры, кинотеатры, рестораны, народные гулянья), номинальным (местоположение среди переименованных улиц) и мистериальным (история и мистика места). Проблематичность усугубляется тем, что в дни праздников сюда проникают потоки молодежи из микрорайонов, в том числе и Заводского. Приток «нездешних» лишает жителей дома устойчивого самосознания «местных». И именно это облегчает сохранение спокойствия жителей Партизанского проспекта.

Неявное противоборство этих улиц знаменует «спор старого и нового», в котором побеждает Партизанский проспект. Его преимущество — стабильность советского образца, признаваемая высшей государственной ценностью. Еще десять лет назад Партизанский проспект воспринимался как отмирающий советский заповедник. Сейчас — это благоустроенный район, воплощающий респектабельность среднего: образования, взгляда на мир и достатка. Что касается Немиги, прежде считавшейся престижной, то теперь она воспринимается как точка столкновения пилигримов, а не как жилое место. Так в свете культивируемой стабильности географические центр и периферия меняются местами. В споре топографии и идеологии одерживает верх последняя. ●

# «ЦЕНТРАЛЬНЫЙ»: МЕСТО ВСТРЕЧИ ИЗМЕНИТЬ НЕЛЬЗЯ?





**/ АВТОР: АЛЕКСАНДР САРНА /**

кандидат философских наук, доцент кафедры социальной коммуникации БГУ. Автор публикаций по проблемам современной визуальной культуры в журналах «Топос», «Палітычная сфера», «Перекрестки». В 2006-2008 гг. работал аналитиком в крупнейших московских PR-агентствах. В настоящее время живет и работает в Минске.

**СОВЕТУЕТ ЧИТАТЬ:**

**Артур Клинов.** Минск: путеводитель по Городу Солнца. (Автобиографический роман Артура Клинова первоначально был издан по-белорусски под названием «Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца».)

Универсам «Центральный» — одно из самых удивительных и по-своему уникальных мест в Минске. История «Центрального» начинается с 1954 года, когда он открылся как обычный продовольственный магазин № 13 Ленинского (позже — Центрального) райпищеторга. Нынешнее название заведение обрело лишь в 1977 году, когда к нему пристроили торговый зал на втором этаже, где расположился гастроном, а позже и универсам. Однако главной достопримечательностью и по сей день остается зал кафетерия, интерьер которого сохранился практически в неизменном виде с момента открытия.

Он расположен в фойе первого этажа и способен привлечь внимание своим колоритом не только горожан, но и зарубежных туристов. Прежде всего, поражает величина зала, размеры которого позволяют претендовать ему на звание едва ли не самого большого кафетерия в восточной Европе. Чего стоит одна барная стойка, которая разместилась вдоль окон, откуда открывается вид на главный проспект.

Другой важный элемент декора в зале, привлекающий внимание посетителей не меньше лепнины и пышных люстр — гипсовые барельефы на стенах над баром и прилавками. Когда-то их было четырнадцать, но теперь осталось тринадцать изображений тружеников сельского хозяйства, причем некоторые из них повторяются: рыбак, доярки, сборщицы урожая фруктов, бахчевых и зерновых культур. А два барельефа знаменуют собой итог их деятельности, изображая гору всевозможной снеди и напитков, — словно иллюстрация из «Книги о вкусной и здоровой пище».



Образы на барельефах выступают как образцы производства (добычи) продуктов — своеобразная «выставка достижений» советской пищевой промышленности. Они представляют собой своего рода платоновские «эйдосы», которые, однако, не могут претендовать на роль



идеалов потребления, постоянно изменяющегося в соответствии с велениями времени. Тем самым «идеи» как образцы производства соответствуют «гению места», а практики потребления и общения — «духу времени». Поляризация и напряжение между этими полюсами задает темп движения публики в зале, нарастающего в течение дня и к вечеру превращающегося в бурлящий людской поток под аккомпанемент музыки в баре и гул голов, сливающихся воедино в «экстазе коммуникации» (Ж. Бодрийяр).

Так создается уникальное публичное пространство — подходящее место для «движухи», где за счёт огромной площади может поместиться (и помещается даже зимой!) едва ли не вся столичная центральная «тусовка». В этом плане «Центральный» абсолютно демократичен — это открытое пространство, доступное для всех и допускающее самые разные формы потребления и общения, где можно просто перекусить за 5-10 минут или «зависнуть» на весь день (благо столики в левом крыле позволяют и присесть).

Это отличает заведение от столь же масштабных проектов советского общепита, например, московского образца. Можно сравнить «Центральный» с универсамом «Котельники» в сталинской высотке на Котельнической набережной, — с аналогичным интерьером и объемом помещения, целиком отданного под магазин. Он практически всегда пуст, поскольку сохранил свой «имперский» стиль и элитарность, ориентируясь на потребности весьма небольшой группы посетителей (в основном жителей дома), что отпугивает нежелательных лиц.

В Минске же в кафетерии «Центрального» сосредоточена практически вся неформальная/неформатная жизнь центра. Это апофеоз городской активности и альтернатива уже сложившемуся во всех прочих публичных местах символическому порядку, выстроенному в соответствии с интересами власти и бизнес-элит. С другой стороны, это социальное и культурное гетто, зажатое в середине города, как в загоне, и стиснутое со всех сторон «периферией», стремящейся установить повсюду свои правила. Пока это не удается, и стихийную практику общения и потребления в кафетерии регулируют лишь собственные нормы и традиции, которые могут представлять интерес для урбанистов и этнографов. «Центральная тусовка» упорядочивается, исходя из внутренних приоритетов, а не в соответствии с правилами и требованиями извне. Да, свой алкоголь приносить и распивать запрещено, но если украдкой перелить в бокал, то можно. Не есть ли подобная «игра в поддавки» единственный признак-призрак нашей свободы? Изгнанная отовсюду, свое последнее пристанище она обрела именно здесь.

Алкоголь играет главную роль в установлении контакта и взаимодействии между посетителями и целыми группами, помогая снять социальные и психологические барьеры, различия в позициях и статусах, которые отступают на второй план перед активностью всех причастных к этому коллективному ритуалу. На фоне коммуникативного равенства возникает иллюзия социального равноправия. Кафетерий превращается тем самым в своеобразный «социальный аннигилятор», который, в отличие от прочих заведений Минска, не строит социальные барьеры на основе престижа, моды и капитала, но разрушает их.

Именно поэтому в ситуации, когда постоянно открываются новые заведения, претендующие на статус «пабов» и «фуд-кортов», «Центральный» остается всё так же востребован. И это неудивительно: новые бары, рестораны и кофейни нужны, но не в таком большом количестве и не со столь высокими ценами. Ведь у нас наблюдается явная нехватка более экономного сегмента, аналогичного кафетериям, которые неуклонно исчезают вместе с реконструкцией гастрономов и универсамов. А те «пабы», которые открываются, не являются пабами в западном понимании, куда может зайти любой, быстро перекусить, выпить кофе или чего покрепче и пойти дальше, не дожидаясь, пока тебя соизволят обслужить. Именно это нужно большинству туристов и горожан, спешащих по своим делам.

И «Центральный» по-прежнему сохраняет для всех эту возможность. Здесь в декорациях официальной советской идеологии реализуются разнообразные сценарии и практики неформальной коммуникации между представителями самых разных сообществ и субкультур. Представители этих групп могут выглядеть весьма экстравагантно (панки, футбольные фанаты, бомжи, хипстеры и пр.), а формы их взаимодействия друг с другом охватывают самый широкий спектр возможностей — от интеллектуальных бесед до рукоприкладства и мордобития. Это служит источником постоянного напряжения и споров о судьбе кафетерия, но если эту социальную и культурную полифонию убрать, центральный «гений места» и «душа города» исчезнет. Важно, чтобы новые владельцы заведения осознали этот факт и содействовали сохранению уникального места в центре Минска. ●



# ПРОЕКТ «COLLABORATIVE ACTION FOR PRESERVING CULTURAL URBAN LANDSCAPES»



**/ АВТОР: ДМИТРИЙ БАБИЦКИЙ /**

Родился в Борисове. Окончил БГЭУ по специальности «Государственное и муницальное управление». Работал в исследовательском центре Института приватизации и менеджмента (Минск). На сегодняшний момент — старший исследователь Центра социально-экономического анализа CASE Belarus (Польша).

**СОВЕТУЕТ ЧИТАТЬ:**

**Gordon Tullock**
The new federalist,
**Hernando de Soto**
The other path

Концепция культурного городского ландшафта впервые была закреплена в 2011 г. в документе ЮНЕСКО "Рекомендация об исторических городских ландшафтах". Согласно ему, исторический городской ландшафт — это городской район, рассматриваемый как результат исторического наслоения культурных и природных ценностей и атрибутов и выходящий за рамки понятия «исторический центр» или «ансамбль» в связи с включением в него более широкого городского контекста и его географических параметров. В этой статье мы будем использовать в тексте два варианта термина **Исторический городской ландшафт** и **Культурный городской ландшафт**, без проведения линии разделения между ними.

Широкий городской контекст включает в себя топографию, геоморфологию, гидрологию и природные особенности конкретного объекта; характер его как исторической, так и современной застройки; его надземные и подземные инфраструктуры; его открытые пространства и сады; методы землепользования и пространственную организацию; особенности восприятия и визуальные соотношения, а также все другие элементы городской структуры; аспекты социальной и культурной практики и ценностей, экономические процессы и нематериальные компоненты наследия, связанные с факторами разнообразия и самобытности.

Культурный городской ландшафт — результат взаимодействия человека и окружения. Результат связи между социальными структурами и городом — как символическими, так и утилитарными объектами и местами. С другой стороны, городское пространство само было сформировано экономическими, политическими и социальными факторами.

Культурный городской ландшафт состоит из двух видов объектов: материальных и нематериальных. К группе нематериальных объектов можно отнести:

- ❖ Фестивали,
- ❖ Традиционная музыка, танцы, представления,
- ❖ Паломничества,
- ❖ Религиозные обряды,
- ❖ Ритуалы,
- ❖ Празднование исторических дат,
- ❖ Традиционные занятия,
- ❖ Торговля продовольственными товарами и ремесленными изделиями,
- ❖ Традиционные места сбора людей.

Подход, ориентированный на исторические городские ландшафты, направлен на сохранение качества окружающей человека среды, на содействие продуктивному и устойчивому использованию городских пространств.

Понятие культурного городского ландшафта непосредственно связано с так называемым "духом места". Считается, что признание, фиксация и анализ сложности и богатства культурного городского ландшафта как раз и является необходимым условием сохранения духа места. Ценность нематериальной составляющей исторического ландшафта не меньше, чем ценность самих памятников архитектуры.

Патрисия О'Доннел из ICOMOS предлагает ряд инструментов, которые могут быть использованы в процессе работы по сохранению культурных городских ландшафтов. Условно их можно разделить на четыре группы:

- ❖ Политические/регуляторные,
- ❖ Экономические,
- ❖ Общественного участия,
- ❖ Образовательные/PR/интерактивные.

Сохранение городского наследия и духа места создает неоспоримые имиджевые эффекты для всего города и его властей (известность за его пределами, позитивный образ и т.д.). Кроме того, многие исследователи доводят, что сохранение духа места способно иметь прямые экономические последствия, выделяя следующие механизмы влияния на местную экономику:

- Развитие туризма,
- Более эффективное использование ресурсов (земли и недвижимости),
- Повышение стоимости земли и, соответственно, ренты,
- Расширение налоговой базы.

Данные механизмы довольно понятны и вряд ли нуждаются в дополнительном разъяснении. Куда менее видимыми в нашей стране пока остаются современные тенденции в экономическом развитии городов, на которых стоит остановиться подробнее.

1996 г., и сейчас на 20% ниже, чем в среднем по США. Жители Портленда стали проезжать в день меньше на 4 мили, экономя тем самым 11 минут своего времени ежедневно (совокупно выигрыш составил около 3% общих доходов населения). Исследования показали, что освободившееся ресурсы были направлены жителями на отдых, развлечения и разнообразные варианты проведения свободного времени. Благодаря более подвижному образу жизни улучшилось здоровье жителей. Смертность в результате ДТП — одна из самых низких по стране.

Власти города, перейдя на новую парадигму развития, создали городу привлекательный образ современного и динамичного места для жизни. В период с 2000 по 2009 гг. количество молодых образованных профессионалов выросла на 50% и сейчас их доля в численности населения превышает средний показатель по США в 5 раз! А согласно опросам, 64% из них переехали в

High Line Park,
Нью-Йорк





Джеф Спек, американский градостроитель, приводит пример такого города — Портленд, штат Орегон. Вместо приоритетного развития транспортной инфраструктуры для личных автомобилей, как это происходило во многих других городах Соединенных Штатов, власти данного города ещё несколько десятилетий назад взяли курс на его переустройство согласно современным концепциям «нового урбанизма». Вместо расширения улиц и дорог часть из их была сужена, а инвестиции направлены на развитие инфраструктуры для велосипедного и пешего движения. В результате интенсивность дорожного движения постоянно сокращается, начиная с

Портленд именно из-за его качеств, а не получив предложение о работе.

Аманда Бёрден, главный градостроитель Нью-Йорка, утверждает, что город это не здания, а пространство между ними. Именно власти Нью-Йорка пошли на радикальные меры по восстановлению культурных городских ландшафтов, ликвидируя парковки и даже целые транспортные развязки для того, чтобы разместить на освободившихся участках кафе, летние террасы, места для отдыха.

Широко известен ставший уже модельным проект по сохранению культурного городского

ландшафта на Манхеттене под названием The High Line Park. Он представляет собой общественное парковое пространство, организованное на стальной эстакаде, проходящей по ряду кварталов данного района. Эстакада, ранее использовавшаяся для рельсового общественного транспорта, утратила свою функцию и предназначалась для сноса. Благодаря усилиям местных активистов, создавших фонд Friends of the High Line, удалось сохранить сооружение, придав ему новую функцию. Сейчас это уникальный парк, ставший одной из достопримечательностей Нью-Йорка и привлекающий ежегодно 5 млн туристов. Кроме сохранения духа старого города, проект стал «ядром» регенерации целых районов, таких как, например, Челси. Возросли цены на недвижимость, появились новые девелоперы, улучшилась ситуация с безопасностью на улицах.

Приведенные выше примеры отчётливо демонстрируют возможные действия по сохранению культурных городских ландшафтов, их реабилитации или даже созданию новых, которые могли бы стать настоящими "историческими" городскими ландшафтами в будущем. Экономическую выгоду от таких действий не всегда можно точно просчитать, но, в то же время, её тяжело и переоценить.




Карта народных топонимов, Борисов

## ГОРОДСКИЕ КУЛЬТУРНЫЕ ЛАНДШАФТЫ В БЕЛАРУСИ: ПРОЕКТ CAPCUL

Последнее десятилетие в Беларуси также активно осуществляются проекты и инициативы по сохранению культурных городских ландшафтов. В ряде городов возникают и развиваются пешеходные улицы (Брест, Могилев), отстраиваются символы самоуправления городов — ратуши (Минск, Могилёв), восстанавливается память о знаковых периодах и личностях в истории городов (например, искусство авангарда в Витебске), возвращается жизнь в замки и усадьбы (Лида, Мир, Несвиж и др.). Позитивные примеры, однако, не могут переломить общую тенденцию разрушения исторических архитектурных ландшафтов и исчезновения ландшафтов культурных. Во многих городах среди местных элит и сообществ вообще отсутствует понимание важности сохранения духа места и исторических особенностей городского пространства.

Проект CAPCUL (Collaborative action for preserving cultural urban landscapes), реализуемый в 2014-15 гг., призван способствовать сохранению культурных городских ландшафтов в трёх пилотных локациях — Борисове, Бресте и Гомеле, создавая тем самым модельные практики для мультипликации в других городах Беларуси. Ниже остановимся подробнее на одной из пилотных инициатив — возрождении народной городской топонимики в Борисове.

Традиция изобретать и использовать неформальные названия районов города не является чем-то необычным для Беларуси. Множество относительно новых районов Борисова приобрели такие названия в 60-90 гг. прошлого века, однако используются они, в основном, только в подростковой среде. Что же касается старой части города (левобережный Борисов), то тут ситуация выглядит куда более интересной. Используемые здесь неформальные топонимы имеют возраст 100-200 лет, а некоторые могли появиться даже значительно раньше. Для примера: в городе нет ни одного здания такого возраста, т.е. данные топонимы являются чуть ли не большей исторической ценностью, чем отдельные архитектурные памятники. Так почему же не попробовать их сохранить, тем более, что и сейчас они активно используются местными жителями всех возрастов и социальных групп?

Инициативной группой был предпринят ряд шагов с целью возрождения народной топонимики Старого города.

**Во-первых,** для систематизации топонимов и их локализации было проведено исследование, включающее в себя организацию фокус-группы (круглого стола) и кабинетного исследования. Местные краеведы сделали попытку обобщить всю имеющуюся информацию как из устных, так и из письменных источников (художественные произведения, воспоминания, архивные документы). Фокус-группа, в свою очередь, дала возможность для дополнительной верификации информации и определила максимальный круг топонимов. Примечательно, что при обмене информацией на круглом столе выяснилось, что каждый из участников не знал хотя бы одного топонима.

Исследование показало и определённую эволюцию топонимов, их рождение и исчезновение. Например, встречающийся в письменных источниках топоним ***Саская скрыня (Соская скрыня)***, явно относящийся к периоду Великого Княжества Литовского, окончательно утерян и не поддается локализации. Название района ***Прыстань***, оставшееся со времен, когда Березина использовалась для судоходства, перестает использоваться жителями города.

Фокус-группа также позволила определить наиболее вероятные версии происхождения топонимов. При изменении уклада местной жизни следующие поколения часто ошибочно воспринимают термины прошлого: меняются повседневные практики, исчезают целые отрасли экономики, видоизменяются понятия и ассоциативные ряды. Так, район ***Разуваеўка*** называется так не из-за плохого криминального фона, как сейчас думают многие борисовчане. Просто данный район был первым на въезде в город и жители деревень, возвращавшиеся из города домой, именно там снимали обувь и шли дальше босиком. А ***Казіны рог*** называется так не потому, что на карте имеет клиновидную форму, а потому что являлся местом выпаса коз для местных жителей, пока ещё не был застроен. Слово ***рог*** в данном случае используется не в отношении рога козы, а как синоним слова «угол».

По результатам исследований была подготовлена карта традиционных топонимов, а также брошюра, включающая в себя описание исторических топонимов и названий — как официальных, так и неофициальных.

**Во-вторых,** был предпринят ряд мер по популяризации результатов проведенного исследования. Они включали в себя публикацию нескольких статей на данную тему в местных СМИ, визуализацию карты топонимов в городском пространстве и её публичную презентацию, а также распространение брошюры. Визуализация карты была выполнена местным мастером в виде монументального настенного панно в технике сграффито. По договоренности с владельцем одного из исторических зданий Старого города, на стену было нанесено панно размером 2,5х4 метра. Так как здание находится в центре Старого города, а его фасад просматривается с довольно оживленной улицы, карта топонимов стала практически сразу привлекать интересующихся — как жителей, так и туристов. Прохожие активно разглядывают и комментируют карту, находя знакомые районы и удивляясь отдельным названиям. Наличие этого объекта в данном месте привлекло внимание и к самому зданию, и к сохранившейся вокруг исторической застройке, повышая в глазах обывателей её ценность. Отзывы собственников других зданий в районе также свидетельствуют о возросшем интересе к историческим чертам и особенностям Старого города. ●

## СЛОЎНІК

**ГЕТЭРАТОПІІ** — рэальныя прасторы, аб'ектныя і сацыяльна-прасторавыя сістэмы, галоўная асаблівасць якіх — адпаведнасць правіл сацыяльных паводзін і архітэктурна-прасторавых характарыстык асяроддзя, што ўплывае на выпрацоўку культурных нормаў. Панятак быў уведзены Мішэлем Фуко. Да гетэратопій можна аднесці бізнэс-цэнтры, цягнікі, аэрапорты, шопінг-молы, супермаркеты, міжнародныя сеткі рэстаранаў і кавярняў.

**ГІСТАРЫЧНЫ ГАРАДСКІ ЛАНДШАФТ** — гарадскі раён, які разглядаецца як вынік гістарычнага напластавання культурных і прыродных каштоўнасцяў і атрыбутаў, які выходзіць за рамкі панятка "гістарычны цэнтр" альбо "ансамбль" у сувязі з уключэннем у яго больш шырокага гарадского кантэксту і яго геаграфічных параметраў.

**ІДЭНТЫЧНАСЦЬ ГРАМАДЗЯНСКАЯ** — усведамленне прыналежнасці да супольнасці грамадзянаў пэўнай дзяржавы, што мае для індывіда значны сэнс.

**ІДЭНТЫЧНАСЦЬ КУЛЬТУРНАЯ** — унікальны для кожнага чалавека набор узятых з розных крыніц культурных зместаў, з якімі ён сябе ідэнтыфікуе і якія рэалізоўвае цягам свайго жыцця.

**ІДЭНТЫЧНАСЦЬ САЦЫЯЛЬНАЯ** — становішча адзінкі ў міжчалавечай прасторы, пасярод іншых, гэтаксама як і суб'ектыўнае адчуванне "мы", аб'ектыўна вызначанае праз займаныя грамадскія пазіцыі і выкананне грамадскіх роляў.

**КУЛЬТУРНЫ ГАРАДСКІ ЛАНДШАФТ** (часта тое самае, што і "гістарычны гарадскі ландшафт") — вынік узаемадзеяння чалавека і наваколля. Вынік сувязі паміж сацыяльнымі структурамі і горадам – як сімвалічнымі, так і утылітарнымі аб'ектамі і месцамі.

**УРБАНІЗМ** — асаблівы спосаб жыцця, комплекс правілаў, ідэй і ўстановак, характэрных для жыхароў вялікіх гарадоў.

**ХРАНАТОП** — адзінства прасторавых і часавых параметраў, накіраваных на выяўленне пэўнага (культурнага, мастацкага) сэнсу. Рэальнае, але нагружанае сімваламі, часам міфалагізаванае месца, у якім падзеі, важныя для канструявання калектыўнай ідэнтычнасці, арганізоўваюць саму прастору і яе сацыяльныя функцыі. Упершыню тэрмін быў ужыты расійскім псіхолагам Аляксеем Ухтомскім, стаў шырока вядомы дзякуючы літаратуразнаўчым працам Міхаіла Бахціна.

